БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 19 (13499)

6—12 мая 1991 года

Цана 35 кап. (па падпісцы—20 кап.)

## Са святам Перамогі, таварышы!



Фота С. БРУШКО.

## ЧЫТАЙЦЕ Ў НУМАРЫ



Мінск.
1 мая
1991 года.

Фота С. БРУШКО.






# На Першамай бывае не толькі святочны салют

*Крымінальнае бюро*

**55 ХВІЛІН ЖЫЦЦЯ**

засталося пенсіянерцы з Пухавіцкага раёна 1932 года нараджэння, калі яе «прыгаварыў» сужыцель — 56-гадовы сантэхнік адной з сярэдніх школ Рудзенска, раней судзімы. 2 мая ён пасварыўся са сваёй напалову законнай жонкай пад уплывам выпітага, пасля чаго тая выйшла з дому і села на лавачцы перад ганкам, а «суддзя-самавучка» схапіў стрэльбу і стрэліў па ёй праз акно.

**СТРЭЛЫ УВЕРХ, ПА КОЛАХ І У СПІНУ**

5 мая каля 5 гадзін раніцы пры затрыманні аўтамашыны «Масквіч», якая была выкрадзена з Заводскага раёна г. Мінска, інспектар дарожна-патрульнай службы ДАІ старшына міліцыі А. Грабеннікаў зрабіў два папераджальныя стрэлы ўверх і спыніў угоншчыкаў у раёне Чыжоўскай АЗС.

А ў Маладзечанскім раёне міліцыянеру Карповічу ў час нясення службы па ахове грамадскага парадку давялося страляць не толькі ўверх, але і па колах аўтамашыны ЛУАЗ, якая не спынілася пры яго патрабаванні. Але вадзіцель усё ж быў затрыманы. Прычым высветлілася, што быў ён у нецвярозым стане.

15 красавіка вызваліўся пасля адбыцця пакарання за ўгон Р., 1967 г. нараджэння, а ўжо 4 мая ноччу ён выкраў аўтамашыну «Ніва» на адной з вуліц Мінска. Прыкладна ў 4 гадзіны раніцы атрымаў паведамленне пра гэта інспектар ДПС абласнога ДАІ В. Глінскі і амаль адразу ж убачыў украдзеную аўтамашыну. Каб спыніць угоншчыка, давялося страляць.

Не абышлося і без кур'ёзаў. Як вядома, перад святамі павялічваецца колькасць крадзяжоў дзяржаўнай жывёлы, бо ў магазінах самі ведаеце што. Вось і ў ноч на Першамай неўстаноўленыя злачынцы праніклі на жывёлагадоўчы комплекс калгаса імя Дзяржынскага Слуцкага раёна і стрэлілі ў спіну... двум парсюкам, якія загінулі на месцы. Але выкрасці злачынцам удалося толькі аднаго: ці перашкодзіў хто, а можа, не здолелі вынесці.

**КІРАУНІК АКАЗАУСЯ СУМЛЕННЫМ**

Чаго ніяк не чакаў жыхар Мінска 1960 года нараджэння, раней двойчы судзімы. У перыяд з 28 красавіка па 2 мая ён пранік у садовы домік кіраўніка аднаго з мінскіх прадпрыемстваў, які знаходзіцца ў Дзяржынскім раёне. Аднак там не аказалася ні замежнай відэатэхнікі, ні незлічоных багаццяў, нажытых няправедным шляхам, і рабаўнік быў вымушаны задаволіцца ўсяго толькі кафямолкай, пасцельнай бялізнай, некалькімі гадзіннікамі і двума ліхтарыкамі. І ўжо зусім разгубіўся няпрошаны візіцёр, калі ў той жа дзень яго разам з нарабаваным затрымала міліцыя.

**АБРАБАВАЛІ ІНВАЛІДА**

Прычым не чужыя, а свае. 2 мая да інваліда II групы, які знаходзіўся на лячэнні ў абласным тубдыспансеры, прыйшлі два наведвальнікі. Пасядзелі, пагаманілі, а пасля ўходу хворы заўважыў, што з палаты знік яго малагабарытны тэлевізар «Шыляліс». Міліцыі не спатрэбілася шмат часу, каб высветліць, што нячыстымі на руку аказаліся наведвальнікі, і затрымаць іх.

**ЖУДАСНАЯ ПЕРАСЦЯРОГА**

Яе прынёс першамайскі дзень усім аўта- і «змеяаматарам». Сонечнай раніцай непадалёк ад вёскі Валяр'яны Уздзенскага раёна, на шашы Мінск — Слуцк — Мікашэвічы шматтонны КамАЗ, абганяючы аўтобус, выехаў на сустрэчную паласу і сутыкнуўся з аўтамашынай «Масквіч», у якой ехала сям'я рабочых Мінскага трактарнага завода з сямігадовым сынам і дзевяцігадовай дачкой, і трыма пасажырамі (таксама дзецьмі). Шасцёра з сямі пасажыраў «Масквіча» загінулі на месцы, а сёмы — навучэнец будаўнічага тэхнікума, у вельмі цяжкім стане дастаўлены ў бальніцу. Папярэдняе расследаванне паказала, што за рулём КамАЗа быў 34-гадовы Г. у цяжкай ступені алкагольнага ап'янення, які вызваліўся пасля адбыцця тэрміну ў калоніі ў лістападзе 1990 года. КамАЗ мае калінінградскую «прапіску», адтуль ён прыехаў з грузам (іронія лёсу) усё на той жа МТЗ. Пасля разгрузкі вадзіцель заехаў за спадарожным грузам у Любанскі раён, там да яго ў кабіну і падсеў Г. разам з яшчэ адным мужчынам. Як водзіцца, прапанавалі выпіць, пасля чаго сапраўдны вадзіцель прылёг паспаць, а Г. сеў за руль...

**У бюро дзяжурыў П. СІМАНАУ.**

# ЗВАРОТ

## ЦК ЛКСМБ да Вярхоўнага Савета БССР

ЦК ЛКСМ Беларусі адзначае, што перамены, якія адбываюцца ў рэспубліцы, значна пагоршылі становішча моладзі. Сёння ў нас выклікае сур'ёзную заклапочанасць складаная эканамічная сітуацыя, стан інтэлектуальнага, фізічнага і маральнага здароўя маладога пакалення. Моладзь, пры дэкларaванні роўных правоў і свабод, мае рэальна меншыя магчымасці ў іх рэалізацыі ў параўнанні з іншымі катэгорыямі насельніцтва. Многае можна растлумачыць і крушэннем адміністрацыйна - каманднай сістэмы, і агульным эканамічным спадам, і розным палітычным, ідэалагічным, міжнацыянальным супрацьстаяннем. Аднак грамадства так і не павярнулася да маладзёжных праблем, па-ранейшаму пакідаючы падрастаючае пакаленне па-за ўвагай. У канчатковым выпадку, такія адносіны да моладзі выклікаюць усё большае адчужэнне яе ад дзяржаўных і грамадскіх інстытутаў. А любыя сацыяльна-эканамічныя змены, якія закранаюць інтарэсы маладых людзей, могуць паслужыць прычынай для масавых стыхійных выступленняў, як гэта мела месца ў рэспубліцы ў сувязі з непрадуманым павышэннем цэн. Вынікі паўтору такіх дзеянняў у далейшым непрадказальныя.

Лічачы неабходнай ліквідацыю эканамічнага і сацыяльнага нераўнапраўя моладзі, мы падтрымліваем асноўныя напрамкі дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі, вызначаныя законапраектам «Аб дзяржаўнай маладзёжнай палітыцы ў Беларускай ССР» і выказваемся за яго хутчэйшае прыняцце.

Не чакаючы заканадаўчых і выканаўчых актаў Вярхоўнага Савета БССР, Савета Міністраў БССР па выпрацоўцы мэтанакіраванай дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі, на многіх сесіях абласных, гарадскіх і раённых Саветаў народных дэпутатаў БССР разгледжаны і прыняты пастановы «Аб пачатках дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі і механізме па яе рэалізацыі». У Мінску, Брэсце, Віцебску, Магілёве, Барысаве, Крупках і іншых гарадах ужо створаны і працуюць пры Саветах народных дэпутатаў пастаянныя камісіі па справах моладзі, а пры выканкомах — камітэты (аддзелы) па справах моладзі. Аднак стварэнне цэласнага механізма па рэалізацыі маладзёжнай палітыкі, які ўключае ў сябе Міністэрства па справах моладзі, аддзелы па справах моладзі пры выканкомах Саветаў народных дэпутатаў усіх узроўняў, сацыяльныя службы і фонды моладзі затрымліваюцца. Гэта зацягвае фарміраванне маладзёжнай палітыкі ў рэспубліцы, а таксама палітыка-прававых, арганізацыйных умоў і гарантый для сацыяльнага станаўлення маладых грамадзян.

Мы звяртаемся да народных дэпутатаў БССР з просьбай унесці на разгляд чацвёртай сесіі Вярхоўнага Савета БССР і прыняць у першым чытанні рэспубліканскі Закон «Аб дзяржаўнай маладзёжнай палітыцы ў Беларускай ССР», вырашыць пытанне аб зацвярджэнні міністра па справах моладзі БССР, стварыць камісіі па справах моладзі ў структурах мясцовых Саветаў, а пры выканкомах — аддзелы па справах моладзі, падтрымаць ініцыятыву ЦК ЛКСМБ па стварэнню службаў сацыяльнай абароны і рэгіянальных фондаў моладзі.

Мы заклікаем Вярхоўны Савет БССР прасякнуцца разуменнем важнасці і неабходнасці прыняцця Закона аб маладзёжнай палітыцы, прадугледжваючага механізмы рашэння эканамічных і сацыяльных праблем для таго, каб усе маладыя людзі з роўным правам маглі ўдзельнічаць у сваім уласным станаўленні і адраджэнні рэспублікі.

**Цэнтральны Камітэт ЛКСМ Беларусі.**

# Памяць сэрца

**9 МАЯ СПОУНІЛАСЯ 46 ГАДОУ З ДНЯ ПЕРАМОГІ САВЕЦКАГА НАРОДА НАД НЯМЕЦКА-ФАШЫСЦКІМІ ЗАХОПНІКАМІ.** Але раны вайны не зажываюць, яны да гэтага часу крываточаць і прымушаюць з болем у сэрцы ўспамінаць пра тыя суровыя дні.

Паводле афіцыйных звестак Цэнтральнага архіва Міністэрства абароны СССР г. Падольска, у нас у краіне больш як 6 мільёнаў афіцэраў і салдат загінулі без вестак за час Вялікай Айчыннай вайны. Асноўная маса без вестак прапаўшых засталася ляжаць на месцах баёў — у акопах і траншэях, бліндажах і лясах, балотах. Такім чынам, 6 мільёнаў сем'яў не могуць сёння прыйсці на магілу свайго сына або бацькі, дзядулі або дзядзькі, 6 мільёнаў сем'яў не карыстаюцца льготамі, устаноўленымі для сем'яў загінуўшых.

Рашэннем Міністэрства абароны СССР і Усесаюзнага каардынацыйнага цэнтра пошукавых атрадаў пры ЦК ВЛКСМ з 28 красавіка па 9 мая на тэрыторыі Віцебскага раёна праведзена Усесаюзная Вахта Памяці па адшукванню, пад'ёму і перазахаванню астанкаў загінуўшых воінаў, якія змагаліся за вызваленне горада Віцебска і Беларусі ў 1943—44 гадах. На Вахту Памяці з'ехаліся прадстаўнікі пошукавых атрадаў з усіх канцоў Савецкага Саюза, ветэраны Вялікай Айчыннай.

Вялікую і карпатлівую работу правялі члены ваенна - патрыятычных клубаў «Пошук» ПТВ-19 імя ЛКСМБ і «Шукальнік» ПТВ-96 г. Віцебска. Пяць разоў яны выязджалі для работы ў Цэнтральны архіў Міністэрства абароны СССР. Перапісалі многія тысячы прозвішчаў загінуўшых афіцэраў і салдат са спісаў беззваротных страт, працавалі ў картатэцы беззваротных страт, нанеслі на карты месцы найбольш напружаных баёў і пахаванняў. Уся гэта работа, несумненна, дапамагла больш эфектыўнаму правядзенню Усесаюзнай Вахты Памяці.

**Анатоль БУРДА.**

# Два «адноўленыя» гады

ГІСТОРЫЯ камсамола Беларусі—гэта нялёгкі шлях барацьбы і перамог, напрацаваны гадамі вопыт. Аднак гісторыю стварэння Саюза моладзі Беларусі спасціг горкі лёс. У найбольшай ступені яна была падвержана заганам дагматызму, тэндэнцыйнасці і лакіроўцы рэчаіснасці.

Вядома, што ў 20—30-я гады юбілей адзначаўся 15 снежня, па даце афармлення Мінскай гарадской камсамольскай арганізацыі ў 1918 годзе. Аб гэтым сведчаць шматлікія дакументы. 15 снежня 1922 г. адбыўся ўрачысты сход ЦК КСМБ, Мінскай гарадской камсамольскай арганізацыі сумесна з Прэзідыумам 4-га Усебеларускага з'езда Саветаў, ЦК КПБ, Прэзідыума Саўпрафбела і гарсавета, прысвечаны 4-й гадавіне камсамола Беларусі, рэпартаж пра які надрукаваны ў газеце «Красная смена» 17 снежня 1922 г.

У 1928 годзе выдавецтвам ЦК ЛКСМБ была выпушчана брашура «10 год Ленінскага камсамола Беларусі», у якой утрымліваўся вялікі фактычны матэрыял аб дзейнасці рэспубліканскай камсамольскай арганізацыі.

Аб святкаванні ў снежні 1933 года 15-гадовага юбілею камсамола Беларусі захаваўся цэлы шэраг дакументаў — пратаколы пасяджэнняў: бюро ЦК ЛКСМБ ад 4 снежня 1933 г. «Аб прадстаўленні да ўзнагароджання ордэнамі Леніна ў сувязі з 15-годдзем ЛКСМБ лепшых ударнікаў-камсамольцаў», сакратарыята ЦК ЛКСМБ ад 12 лістапада 1933 г. «Аб выкананні абавязацельстваў у сувязі з 15-годдзем ЛКСМБ», віншавальныя тэлеграмы ад камсамольскіх арганізацый Ленінграда, Літвы, воінскіх часцей і г. д. Напрыклад, у прывітанні ЦК ВЛКСМ «Да 15-й гадавіны камсамола БССР», апублікаваным 19 снежня 1933 г. у газеце «Красная смена», гаварылася: «Камсамол Беларусі адыграў вялікую ролю ў справе абароны заходніх граніц СССР. Разам з тым, ён выконвае вялікую работу на ўсіх участках сацыялістычнага будаўніцтва і з'яўляецца добрай школай інтэрнацыянальнага выхавання маладых рабочых і калгаснікаў. Вось чаму Ваш 15-гадовы юбілей правільна будзе назваць вялікім святам моладзі не толькі Беларусі, але і ўсяго Савецкага Саюза».

Аднак гэта быў апошні юбілей, які адзначаўся па даце 1918 г. З 1940 г. юбілей камсамола Беларусі пачалі адзначаць па даце склікання 1 Усебеларускага з'езда камсамола, які працаваў 24—27 верасня 1920 г.



*Камсамольцы 20-х...*

Але як жа здарылася, што першапачатковая дата, узаконеная партыйнымі, савецкімі і камсамольскімі органамі, якая перыядычна адзначалася ў 20—30-я гады, раптам была зменена? Звернемся да ўспамінаў першых камсамольцаў Беларусі.

УЗАЯВЕ ў бюро ЦК ЛКСМБ у 1968 г. член ВЛКСМ з 1918 г. Рубенчык Я. І. пісаў: «У 1938 г. пачалася падрыхтоўка да 20-годдзя ЛКСМБ, але святкаваць ужо не прыйшлося. Масавыя рэпрэсіі, што пачаліся ў той час у Беларусі па камандзе славутай камісіі Маленкова, абрушыліся і на камсамол. Незаконна арыштавалі кіраўніцтва ЦК і вялікую групу камсамольскіх работнікаў...»

Членамі камісіі ЦК ЛКСМБ па рэабілітацыі камсамольцаў і камсамольскіх работнікаў, незаконна рэпрэсіраваных у гады культу асобы Сталіна, у 1989 г. у Цэнтральным партыйным архіве Кампартыі Беларусі былі знойдзены спісы работнікаў апарату ЦК ЛКСМБ, сакратароў абкомаў, гаркомаў, райкомаў камсамола рэспублікі, неабгрунтавана знятых з работы пасля IV пленума ЦК ЛКСМБ 1937 г., на якім было разгледжана пытанне «Аб выкрыванні ворагаў народа ў кіраўніцтве ЛКСМБ». У выніку рэпрэсій многія кіруючыя камсамольскія работнікі рэспублікі загінулі або былі накіраваны ў лагеры. Рэспубліканская камсамольская арганізацыя да пачатку 1938 г. засталася без кіраўнікоў.

У снежні 1938 г. па ўсёй краіне пракацілася хваля камсамольскіх сходаў, канферэнцый, пленумаў, зaклі-каных «давесці да свядомасці кожнага члена ВЛКСМ» рашэнні VII пленума ЦК ВЛКСМ 1938 г. «Бязлітасна і да канца выкрываць варожыя пазадкі ў камсамоле!» — пад такім лозунгам праходзілі сходы камсамольскага актыву рэспублікі, V пленум ЦК ЛКСМБ, XII і XIII з'езды камсамола Беларусі.

М. С. Арэхва, першы сакратар ЦК ЛКСМБ у 1924 г., успамінаў: «Бюро ЦК ЛКСМБ, што прыйшло да кіраўніцтва пасля 1938 г., у сваёй пастанове ад 12 жніўня 1940 г. вызначыла новую дату, г. зн. тады, калі звычайны тэрмін святкавання ўжо прайшоў. За зыходны пункт узялі 24 верасня 1920 г. — дзень адкрыцця І Усебеларускага з'езда камсамола, які зусім не быў устаноўчым. Відаць, зыходзілі з чыста фармальных меркаванняў».

У названай вышэй пастанове бюро ЦК ЛКСМБ «Аб 20-годдзі ЛКСМБ» не даецца абгрунтавання новай даты, а толькі канстатуецца: «У сувязі з 20-гадовым юбілеем існавання ЛКСМБ, які адбудзецца 24 верасня 1940 г., гаркомам і райкомам камсамола правесці ў гарадах, раённых цэнтрах у перыяд з 24 па 27 верасня сходы камсамольскіх актываў, прысвечаных 20-годдзю камсамола Беларусі з дакладамі: «Партыя Леніна-Сталіна кіраўнік і арганізатар камсамола».

Вучоныя-гісторыкі прыйшлі да думкі, што дата 15 снежня 1918 г. не зусім дакладная. Бо першыя маладзёжныя арганізацыі Беларусі па тыпу культурна-асветніцкіх гурткоў, прадвеснікаў камсамола ўзніклі вясной 1918 г. у Віцебску, Оршы, Магілёве і іншых гарадах. Старэйшыя таварышы надалі ім камуністычны характар.

У канцы 1918 — пачатку 1919 г. г. пасля І з'езда РКСМ ва ўсіх кутках вызваленай Беларусі разгарнулася работа па стварэнню камсамольскіх арганізацый. Яны былі ўтвораны 13 лістапада ў Віцебску, 6 снежня ў Магілёве, 22 снежня ў Бабруйску, а таксама ў Мазыры, Крупках, Старых Дарогах, Ігумене (цяпер Чэрвень), Карме і іншых гарадах Беларусі. Кожны дзень утварэння камсамольскай арганізацыі таго ці іншага горада, па аналогіі стварэння Мінскай гарадской камсамольскай арганізацыі 15 снежня 1918 г., відаць, можна было б лічыць днём заснавання ЛКСМБ?

Трэба арыентавацца на дату 25 снежня 1918 г., калі ў Смаленску адбыўся з'езд камсамола Заходняй Камуны. (У маі 1917 г. на з'ездзе Саветаў Мінскай, Віленскай і Магілёўскай губерняў была створана Заходняя вобласць з цэнтрам у г. Мінску. Пасля захопу часткі Беларусі нямецкімі акупантамі ў лютым 1918 г. цэнтр вобласці перанесены ў Смаленск і ў яе састаў, акрамя неакупіраваных паветаў Віцебскай і Магілёўскай губерняў, увайшла Смаленская губерня. На абласным з'ездзе Саветаў у верасні 1918 г. Заходняя вобласць перайменавана ў Заходнюю Камуну. 1 студзеня 1919 г. ліквідавана ў сувязі з утварэннем Беларускай ССР). Фактычна з'езд камсамола Заходняй Камуны стаў з'ездам арганізацыйнага афармлення Камуністычнага Саюза Моладзі Беларусі.

З'езд камсамола Заходняй Камуны абраў абком камсамола ў складзе М. Ахманава, І. Грэйфенберга, Н. Зандэра, І. Флакса, М. Вераб'ёва, Я. Прокшыца, З. Родзіна.

«Пасля з'езду абраны абласны камітэт пераехаў у Мінск,— адзначаў у 1924 г. адзін з першых арганізатараў ЛКСМБ М. Ахманаў у зборніку ўспамінаў «Камсамол Беларусі: 5 год на аванпасадах», — дзе абвясціў сябе ЦК КСМ Беларусі. Першым актам актыўнай палітычнай дзейнасці ЦК быў зварот да ўсёй рабоча-сялянскай моладзі Беларусі прыняць актыўны ўдзел у выбарах Саветаў пад сцягам Камуністычнай партыі. Тады ж было прынята рашэнне аб выданні «Факела Камунізму». Палітычныя падзеі паставілі перад намі задачу аб'яднання Літвы з Беларуссю. 9 лютага 1919 г. на пленарным пасяджэнні ЦК КСМБ і прадстаўнікоў Літвы было абвешчана аб'яднанне. ЦК Літбел склаўся з ЦК Беларусі і трох прадстаўнікоў з Літвы: Альпяровіча, Волава і Моўшэнзона. ЦК Мол хутка пераехаў у Вільню і тут пачынае разгортваць сваю дзейнасць».

У той жа час разгарнулася падрыхтоўка да 1 з'езда камсамола рэспублікі, які вырашылі склікаць 25 чэрвеня 1919 г., затым адклалі скліканне на 16 ліпеня 1919 г. Склікаць з'езд камсамола ўдалося толькі пасля разгрому польскіх інтэрвентаў — 24 верасня 1920 г. На І Усебеларускім з'ездзе камсамола былі разгледжаны пытанні: І. Бягучы момант і задачы моладзі; 2. Даклад Цэнтральнага Бюро аб яго дзейнасці; 3. Праца на вёсцы; 4. Палітыка-асветніцкая работа; 5. Эканом-прававая работа; 6. Сацыяльнае выхаванне моладзі; 7. Фізічнае развіццё і дапрызыўная падрыхтоўка; 8. Юнацкі друк; 9. Аб Усерасійскім з'ездзе; 10. Рознае.

Такім чынам, на з'ездзе не прымаліся Праграма і Статут, рэзалюцыі па арганізацыйных пытаннях, бо яны ўжо былі прыняты на з'ездзе камсамола Заходняй Камуны. Большасць дэлегатаў з'езда камсамола Заходняй Камуны былі прадстаўнікамі камсамольскіх арганізацый губерняў і паветаў, якія пазней увайшлі ў Беларускую ССР. Быў абраны абком камсамола, праз некалькі дзён пераўтвораны ў Цэнтральны Камітэт Камуністычнага Саюза Моладзі Беларусі. Наладжаны выпуск цэнтральнага друкаванага камсамольскага органа «Факел Камунізму». Адбылося аб'яднанне ў адзіны Камуністычны Саюз Моладзі Літвы і Беларусі камсамольскіх арганізацый абедзвюх рэспублік і іх сумесная актыўная дзейнасць. Усё гэта, разам узятае, пераканаўча гаворыць аб арганізацыйным афармленні ЛКСМБ 25 снежня 1918 г.

УЧЭРВЕНІ 1990 г. XII пленум ЦК ЛКСМБ большасцю галасоў адмяніў пастанову бюро ЦК ЛКСМБ ад 12 жніўня 1940 г. «Аб 20-годдзі ЛКСМБ». І ўсё ж прызнаць памылку — толькі палова справы. Яе неабходна было выправіць, вярнуўшы маладзёжнай арганізацыі два «страчаныя гады».

У гэты час давесці да завяршэння пытанне аб сапраўднай даце ўтварэння камсамола Беларусі перашкодзілі такія прычыны, як нявысветленасць прызначэння ЛКСМБ у грамадстве, неэфектыўнасць камсамола ў адстойванні інтарэсаў падрастаючага пакалення, зніжэнне ў грамадскай думцы прэстыжу ўсіх афіцыйных структур, адсутнасць самастойнасці маладзёжнага саюза, сіла бюракратычных тэндэнцый у камсамоле. Усё гэта ў выніку аформілася ў пытанне «Навошта патрэбны камсамол?» І як вынік: «Ці ёсць сэнс пераглядаць дату нараджэння ЛКСМБ?».

XXIX з'езд камсамола Беларусі ў кастрычніку 1990 г. стаў перад неабходнасцю не толькі адказу на гэтыя пытанні, але і правядзення глыбокіх радыкальных змен як у змесце дзейнасці камсамола, так і яго мадэлі.

Меркаванняў аб лёсе камсамола напярэдадні з'езда было шмат. Адны прадказвалі раскол арганізацыі, — намякалі, што гэты камсамольскі форум, магчыма, стане апошнім. На самай жа справе гэта быў з'езд кампрамісаў, што, несумненна, можна паставіць дэлегатам у заслугу. У наш такі складаны час, калі добра відаць супрацьстаянне бакоў, калі папулярнымі становяцца пагрозы забастовак, дэмаршы, узаемныя абвінавачванні і непрымірымасць, уменне шукаць і знаходзіць згоду — выратавальнае.

Бо, нягледзячы на проціборства поглядаў і думак, дэлегаты пераадолелі асабістыя амбіцыі і, думаючы перш за ўсё пра агульныя інтарэсы моладзі рэспублікі, змаглі захаваць адзіную арганізацыю — ЛКСМБ. Пры гэтым прапанаваны рашэнні, якія адкрываюць камсамолу перспектыву для пераходу ў якасна новы стан.

Тут можна выдзеліць чатыры асноўныя моманты: па-першае, зменены Статут арганізацыі. З грамадска-палітычнага саюза камуністычнай накіраванасці камсамол рэфарміраваны ў грамадскую арганізацыю, якая аб'ядноўвае моладзь сацыялістычнага выбару, заснаванага на агульначалавечых каштоўнасцях, гуманізме, дэмакратыі, свабодзе і грамадзянскай годнасці; па-другое. змена Статута патрабавала карэнных змен у мэтах і асноўных напрамках дзейнасці. Калі раней галоўнай задачай дзейнасці камсамола з'яўлялася камуністычнае выхаванне моладзі, то цяпер — абарона інтарэсаў маладых людзей, садзейнічанне іх самарэалізацыі і ўсебаковаму развіццю; па-трэцяе, заяўлена аб калектыўным членстве, якое адкрывае шырокія перспектывы для ўзаемаразумення і супрацоўніцтва камсамола з рознымі напрамкамі ў маладзёжным руху.

**У лютым 1991 г. на пасяджэнні камісіі грамадска-палітычных праблем ЦК ЛКСМБ было разгледжана пытанне аб удакладненні даты ўтварэння камсамола Беларусі і сфарміравана група для далейшага азнаямлення з архіўнымі матэрыяламі. 24 красавіка 1991 г. вывады гэтай камісіі аб даце ўтварэння камсамола Беларусі былі дакладзены III пленуму ЦК ЛКСМБ, які аднагалосна прыняў рашэнне — днём нараджэння Ленінскага Камуністычнага Саюза Моладзі Беларусі лічыць менавіта 25 снежня 1918 г.**

ПРЫВЕДЗЕНЫЯ аргументы, факты аб зараджэнні і дзейнасці камсамола Беларусі бясспрэчныя. Гэта не проста набор матэрыялаў ЛКСМБ, якія дапамагаюць праўдзіва раскрыць летапіс Саюза моладзі Беларусі. Гэта спадчына моладзі і юнацкага руху. Гісторыя. А яна, як вядома, не застаецца ў мінулым, не знікае бясследна, яна працягвае жыць у кожным наступаючым дні і выхоўвае будучае пакаленне.

**А. МАКАРЭВІЧ,**
**заг. аддзела грамадска-палітычных праблем ЦК ЛКСМБ, кандыдат гістарычных навук.**

# Мы прыйшлі

**Такое сапраўды бывае толькі раз за семдзесят гадоў. Часцей мы проста не вытрымаем. Паездка на племзавод «Леніна», у госці да ягонага калектыву і дырэктара Мікалая Мікалаевіча Ларковіча, застанецца ў нашай памяці яскравым, незвычайным выбухам, наступства якога будуць хваляваць нас яшчэ доўгі час.**



Даўным - даўно ўжо стала штампам знакамітая «быць бліжэй да народа», але ніхто не адмяняў пакуль што (ды і ці магчыма такое адмяніць?) імкненне чалавека паглядзець у глыбіню, даведацца, што ж там такое, адкуль бяруць сок нашыя карані? Тым больш, калі такі чалавек журналіст. Чаму ж менавіта гэтую гаспадарку мы выбралі для таго, каб адсвяткаваць там наш юбілей? Справа ў тым, што дырэктар племзавода М. М. Ларковіч ужо даўно запрашаў нас прыехаць да яго ў госці, сустрэцца з народам, а то, па словах некаторых, іншыя журналісты і жывой каровы ў твар не ведаюць.

Чаго-чаго, а кароў на племзаводзе хапае, прычым самых прадуктыўных на Беларусі. На фоне агульнай беднасці, невысокага надою ў гаспадарцы Ларковіча надойваюць ад кожнай каровы ў сярэднім па 5—6 тысяч літраў малака. Гэта пры тым, што ў сярэднім па Беларусі гэтая лічба не перавышае 3—4 тысяч літраў.

Ну вось, скажуць некаторыя, зноў пайшоў задаволены журналіст ухваляць гаспадарку і кіраўніка, якія яму даспадобы. Ну дык, а чаго яе лаяць, калі там у наяўнасці ўсе станоўчыя якасці, якія ў прынцыпе павінна мець калектыўная гаспадарка? Па-першае, і чырвоназменаўцы з гэтым згодныя ўсе: узначальвае племзавод чалавек, якога з поўным правам можна назваць адным словам, прычым з вялікай літары — Гаспадар. Не толькі госці, якія часта наведваюць племзавод, застаюцца задаволенымі. Калектыў «Чырвонкі», які ў Доме культуры племзавода сустрэўся з вяскоўцамі, не ўбачыў ні на адным твары нейкай затоенай злосці, незадаволенасці. Дык а чаму ім быць, калі **ВЁСКУ** Леніна і вёскай цяжка назваць — каменныя дамы з усімі выгодамі, вуліцы, пакрытыя асфальтам, шасціпавярховая гасцініца...

А ці ў гэтым справа? І ў будане можна пражыць доўга, весела.—гэта залежыць толькі ад чалавека, а аснова напаўнення душы чалавека дабром, шчырасцю, пачуццём уласнай годнасці закладваецца з дзяцінства.

Як толькі мы ступілі на зямлю племзавода, нас сустрэлі дзеці — па-ўрачыстаму апранутыя школьнікі з белымі ляснымі кветкамі ў руках. Гарадскія кветкі не пахнуць, а варта было толькі паднесці гэтыя прыгожыя кветкі да твару, як адчуванне таго, што стаіш на асфальце, імгненна знікала. Падарункі недалёкага лесу адразу перанеслі нас туды, дзе дзікая, адвечная прырода падпарадкоўвае сваім законам усё існае. Чалавечыя законы нашага разбэшчанага грамадства не ідуць ні ў якое параўнанне з тымі законамі, з тымі парадкамі, якія выдае самы Вярхоўны Савет з усіх вярхоўных саветаў — прырода. Сапраўды, ніколі сапраўдныя дзеці прыроды не будуць шкодзіць самі сабе, не будуць знішчаць прыгажосць і чысціню, якімі яна нас адарыла. Усё пачынаецца з маленства, з парэзаных школьных партаў, брудных лесвіц, размаляваных сцен. Дзе вы бачылі школу, у якой на партах не было б ніводнага надпісу, зробленага маленькімі шкоднікамі? Чырваназменаўцы такую школу бачылі. У Ленінскай сярэдняй школе вучыцца 400 хлопчыкаў і дзяўчынак. Мы з поўным правам можам заявіць, што паказухі ў гэтай школе не было ніколі. Сапраўды, гэта цяпер даволі рэдка сталі ездзіць розныя дэлегацыі ў госці да рабочых племзавода. Раней жа колькасць розных наведвальнікаў значна перабольшвала колькасць жыхароў вёскі Леніна. Так што парадак тут сапраўды ёсць. Не нямецкі пунктуальны парадак, які ў крыві ў гэтай нацыі, а менавіта наш, беларускі, моцна настоены на таленце, разважлівасці, сувязі з зямлёй. Каб вы пабачылі чыстыя і светлыя класы, прасторныя калідоры, школьную сталовую, зала якой можа параўнацца і з добрым рэстаранам, — вы б упэўніліся, што дзецям рабочых племзавода не прыходзіцца шкадаваць аб тым, што яны тут нарадзіліся.

Наша вандроўка па гаспадарцы працягвалася. Педагагічнае вучылішча, адзінае вясковае педвучылішча, дзе вучыцца каля шасцісот дзяўчат (і 17 хлопцаў), дазваляе думаць, што пад кіраўніцтвам яго выпускнікоў у дзяцей сапраўды не будзе стымулу маляваць на партах і дошках абразы наконт «Марыя Іванаўна—дурніца». Гледзячы на чыстыя, вялікія аўдыторыі, дзе набываюць свае веды будучыя сельскія настаўнікі, мімаволі напрошваецца вывад: аснова характару чалавека, ягонай разважлівасці, ягонага інтэлекту ў гэтым куточку беларускай зямлі закладваецца надзейна.

Зямля... Калі мы гаворым гэтыя словы, мы маем на ўвазе перш за ўсё нашу планету, але як не ўзгадаць аб тым, што ёсць на нашай планеце куточкі, дзе лепш за ўсё расце жыта, дзе травы вымахваюць у рост чалавека, таму што ўгноеная гэта зямля, гэтая глеба чалавечым прахам... Пад вёскай Леніна 9 месяцаў трымаўся фронт. 9 месяцаў сядзелі насупраць у акопах непрымірымыя ворагі: Чырвоная Армія і вермахт, народ Краіны Саветаў і растлусцелы дзякуючы абрабаванай Еўропе германскі фашызм. У вёсцы Леніна два помнікі, адзін, выкананы ў форме зоркі, з чырвонага граніту — савецкім воінам, чые імёны высечаны на стэле, якая стаіць побач. Гэты помнік — на брацкай магіле, дзе пахаваны сотні савецкіх воінаў, што ўзняліся на абарону Радзімы. Другі помнік — польска-савецкай садружнасці.

У 1943 годзе ў гэтых месцах прыняла свой першы бой першая польская дывізія імя Тадэвуша Касцюшкі. І вось мы ў музеі, ад якога добра праглядваецца ўся вёска і навакольныя палі... Вялізную салдацкую каску нагадвае гэты музей, у якім сабраны сведчанні аб высокім людскім прызначэнні — адстойваць сваю зямлю ад ворага. Фотаздымкі, ордэны — савецкія і польскія — у вітрынах музея сведчаць аб тым, што памяць — тэрмін вечны і пазбавіць людзей гэтай памяці немагчыма. Зброя, ад звычайнай рускай трохлінейкі да палкавога мінамёта, салдацкая форма... Гэту зброю трымалі ў руках палякі, якія пачыналі тут свой шлях у Варшаву.

Раней дэлегацыі з Польшчы прыязджалі на гэтую зямлю штодзённа. Цяпер (няма чаго граху таіць) у Польшчы пераглядаюць адносіны нават да тых, хто паклаў сваё жыццё дзеля яе ж вызвалення. Пяць соцень палякаў ляжыць у гэтай зямлі... У беларускай зямлі, але кроў іх праліта за тое, каб гімн «Яшчэ Польска не згінэла» гучаў над свабоднай польскай зямлёй.

Мікалай Мікалаевіч Ларковіч, які цікава і жыва распавядаў гісторыю былой вёскі Раманава, што ў 1918 годзе перайменавана ў Леніна, сцвярджае: першы і апошні раз старшыня Савета народных камісараў згадзіўся на тое, каб населены пункт назвалі яго імем...

Сапраўды, гэта цяпер святое для многіх савецкіх людзей імя, аблаянае ў наш час, можна бачыць у кожным горадзе па некалькі дзесяткаў разоў. Але гэта не ягоная «заслуга»...

І вось, нарэшце, настаў час сустрэчы чырваназменаўцаў з калектывам племзавода. Зала Дома культуры, якой пазайздросціць і іншы сталічны палац, стала сведкай таго, як умее працаваць і весяліцца беларуская вёска. «Чырвонку» тут любяць і не толькі дзякуючы таму, што дырэктар Мікалай Мікалаевіч Ларковіч з'яўляецца членам яе рэдкалегіі. Ва ўсялякім выпадку «Чырвоную змену», некалькі дзесяткаў экземпляраў якой мы прывезлі з сабой, «размялі»





# пакланіцца зямлі





імгненна»: прадпрымальны «Саюздрук» не паспеў яшчэ завесці ў Леніна свежы нумар газеты.

Чырваназменаўцы — на сцэне, нас віншуюць. Мікалай Мікалаевіч Ларковіч адзначае, што апошнім часам наш родны штотыднёвік стаў значна лепшым. Толькі вось на прапаганду газеты трэба звяртаць больш увагі, раіць дырэктар племзавода. «Чырвонка» ўзнагародзіла сваімі граматамі перадавікоў вытворчасці, людзей, якія сваёй працай сведчаць аб тым, што сельская гаспадарка жыве, нягледзячы на часам злачынную абыякавасць да яе кіраўнікоў нашай дзяржавы. На памяць аб гэтай сустрэчы нам падарылі значкі. Цяпер яны будуць нагадваць аб тым, што «Чырвонка» сувязі з масамі не страчвае.

Ці карысныя такія сустрэчы? Ці не нагадвае наша свята фэст пад час чумы? Але нават пад час вайны, калі гаварылі гарматы, музы не маўчалі. Менавіта да сваёй музы мы і паехалі, бо наша натхненне не ідзе ад недасягальных вяршынь Парнаса, з сумных велікасвецкіх гасцёўняў... Ад зямлі яно, наша натхненне, ад людзей, якія гэту зямлю апрацоўваюць. Ці не гэта самае высокае прызначэнне? Чалавек павінен быць сытым. І нягледзячы на тое, што многія ўзвышаныя асобы лічаць гэта ўсё нізасцю, галоднаму салаўю не да песень. Гэта не вымушаная неабходнасць — сялянская праца. Гэта подзвіг.

За святочным сталом — а дзякуючы сялянскім рукам яшчэ магчымы нават святочны стол — найбольш ясна бачныя вынікі сялянскай працы. Як кажуць, добра папрацавалі —і адпачыць можна добра. Адпачынак пачаўся яшчэ ў Доме культуры, дзе даўнія шэфы племзавода «Віцьбічы» так запалілі залу сваімі песнямі, што і разыходзіцца не хацелася. Асабліва ззяла на сцэне Алена Маслоўская, салістка ансамбля. Дзіўны голас, высакародная манера выканання нікога абыякавымі не пакінулі. А калі Алена заспявала пад звычайную акустычную гітару рамансы і песні, якія прынята называць бардаўскімі, зала проста выбухнула апладысментамі. Заслужаныя кампліменты былі толькі малой узнагародай спявачцы.

Дарэчы, «Чырвоная змена» вырашыла надрукаваць у адным са сваіх нумароў плакат, прысвечаны таленавітым «Віцьбічам» і іх салістцы.

**Не неба нараджае дабрабыт чалавечы, а зямля. Але толькі ад сіл нябесных залежыць, ці народзіць гэта зямля хлеб, ці выпестуе яна слабыя пакуль што парасткі адроджанага чалавечага духу. Мы прыйшлі пакланіцца гэтай зямлі, мы прыйшлі памаліцца гэтаму небу, адкуль глядзяць зараз на нас продкі, якія таксама жылі, змагаліся і верылі.**

**Жыццё працягваецца. «Чырвонай змене» пайшоў ужо 71 год. Свята скончана... Але ці не галоўная мэта наша — зрабіць свята жыцця пастаянным? Каб і праца, і адпачынак былі адным непарыўным ланцугом шчасця, неўміручай песняй.**

Алесь **ПАЛЫНСКІ.**



**НА ЗДЫМКАХ:**
**⊙ Мікалай Мікалаевіч ЛАРКОВІЧ расказвае пра сваю гаспадарку.**
**⊙ Так нас сустракалі.**
**⊙ Мясцовыя хлопцы ўважліва ўглядаюцца ў карыкатуры, намаляваныя чырваназменаўцам Віктарам Дубовікам.**
**⊙ Шлях у памяць.**
**⊙ На нас глядзяць ленінцы.**
**⊙ Рэдактар «Чырвонай змены» Уладзімір БЕЛЬСКІ ўручае Мікалаю Мікалаевічу ЛАРКОВІЧУ наш падарунак — насценны гадзіннік.**
**⊙ У музеі савецка-польскай баявой садружнасці.**
**⊙ Спявае Алена МАСЛОЎСКАЯ.**
**⊙ На сцэне «Віцьбічы».**

**Фота С. БРУШКО.**








# «Цудоўнай прыгажосці ўзор»



З імем Пятра Міронавіча Машэрава звязана шмат слаўных старонак у гісторыі Беларусі. Ён — гордасць нашага народа, нацыянальны герой. Пра яго я напісаў гісторыка-дакументальную аповесць «Цудоўнай прыгажосці ўзор», старонкі з якой прапаную чытачам «Чырвонай змены». Раздзел будзе публікавацца ўпершыню.

Культурна-творчая фірма «Русь Белая» рыхтуе выданне гісторыка-дакументальнай аповесці «П. М. Машэраў». Хацелася б убачыць гэтую кнігу вялікім тыражом і ў добрым афармленні. Але на гэта патрэбны значныя сродкі, якіх у фірмы, на жаль, недастаткова. Просім усіх кіраўнікоў прадпрыемстваў і ўстаноў, усіх жыхароў рэспублікі дапамагчы выдаць кнігу. Кожны, хто ўнясе пэўную суму грошай на выданне кнігі, будзе паіменна надрукаваны ў пісьме-падзяцы, якое мы плануем змясціць побач з аповесцю. Грошы перасылайце на рахунак № 609604 у Мінскім гарадскім упраўленні Дзяржбанка СССР МФО-400417.

**У. ЯКУТАЎ,**
**пісьменнік, кандыдат гістарычных навук.**

# НЯСКОРАНЫЯ

Няголенага з чорным густым шчаціннем палоннага даставілі на адзін з сакрэтных пастоў атрада. Ён быў апрануты ў разнамасную форму. Зеленкаватага колеру чырвонаармейская гімнасцёрка, рэзка кантраставала з мышынага колеру штанамі, а зацухмолены чорны матроскі бушлат здаваўся лішнім на фоне яркаблакітнага шаліка. Калі сюды дадаць клятчастую кепку і карычневыя на тоўстай падэшве чаравікі, то ўпаўне можна было падумаць, што ён цыркавы клоун.

Машэраў, убачыўшы палоннага, так і сказаў:

— Цыркач, ці што?

— Жартуеце, таварыш камандзір,— незадаволена адказаў той.

— Партызанам не да жартаў, калі навокал бадзяюцца пераапранутыя лазутчыкі і дыверсанты,—працягваў Пётр Міронавіч.— Нам даводзіцца пастаянна трымаць руку на курку.— Ён уважліва паглядзеў на палоннага.— Вы ж чалавек ваенны і, напэўна, разумееце сітуацыю.

— Былы ваенны, таварыш камандзір,— удакладніў палонны.— А цяпер ні богу свечка, ні чорту качарга. Ён гучна рассмяяўся.

— Дык хто ж ты ўсё-такі?— задаў пытанне Машэраў.

— Гэта я магу сказаць толькі камандуючаму партызанамі... Вось слова «камандуючаму» і загубіла загадкавага палоннага, а больш дакладна паставіла апошнюю кропку ў яго лёсе. Усё было загадкава ў гэтым чалавеку. Ён, ідучы з Полацка, спакойна прайшоў усе нямецкія заставы. Усё гэта адбывалася сярод белага дня. Далей яшчэ больш загадкава. Наваяўлены падарожнік рабіў сваю справу, забыўшы пра вайну. Ён трымаў шлях у партызанскія раёны, быццам у дом адпачынку. У яго чамадане ляжалі дзве чыстыя кашулі, бялізна, мыла, некалькі пачак нямецкіх цыгарэт, шкарпэткі і брытва з наборам лёзаў. Калі яго схапілі партызаны, то высветлілася. што падарожнік не мае ніякага дакумента і не жадае з імі гаварыць.

— Вядзіце да свайго начальніка.

Так невядомы мужчына паўстаў перад Машэравым. Але партызаны ўжо шмат разоў сустракаліся з падобнымі фокусамі гітлераўскай разведкі, якая засылала завербаваных ваеннапалонных і прамых агентаў, шпіёнаў і дыверсантаў, розных ілжэагітатараў. Гэтыя людзі спрабавалі атручваць пітныя крыніцы партызан і забіваць камандзіраў, вышукваць базіраванне атрадаў і сувязі паміж імі, дэзарыентаваць і запалохваць насельніцтва, мініраваць падыходы і дарогі ў партызанскіх зонах. Фашысты пераапраналі цэлыя ўзводы і роты крымінальнікаў у чырвонаармейскую форму і накіроўвалі іх на мірныя пасяленні. Гэтыя злодзеі, бандыты і жулікі пакідалі пасля сябе сотні згвалтаваных жанчын, спаленыя і разрабаваныя вёскі, трупы забітых.

Яны ж бачылі вандалаў у савецкай форме, гаварылі тыя на рускай мове.

Хто ж яны? Падобныя варожыя жарты з'яўляліся для партызан больш страшнымі за лабавую атаку. Колькі патрабавалася прыкласці сілы, каб пераканаць людзей, хто менавіта ажыццяўляе злачынства. Праўда, пасля партызаны знайшлі супрацьяддзе такім гнюсным вылазкам гестапа. У Віцебску, Полацку, Дрысе, Смаргоні, Вілейцы, Невелі і іншых нямецкіх гарнізонах разведчыкі знішчылі многіх кіраўнікоў фарміраванняў здраднікаў, некаторых узялі ў палон, разбурыўшы іх жыллё. Было паспяхова праведзена некалькі дзёрзкіх аперацый па ліквідацыі нахабных галаварэзаў. Адначасова на вышэйшых чыноў гестапа і ваеннай нямецкай разведкі і іх сем'і абрушыўся агонь помсты. Сярод акупантаў пачаўся перапалох. Яны тэрмінова пачалі адпраўляць сваіх блізкіх у Германію, хаваць іх пад узмоцненую ахову, будаваць хітрыя загараджальныя абароны. У фашыстаў прапала жаданне пускаць у мірныя пасёлкі бандытаў-крымінальнікаў і здраднікаў пад выглядам чырвонаармейцаў. Але гэта не азначае, што вораг поўнасцю супакоіўся. Зразумела, не. Правакацыі працягваліся. І падарожжа незнаёмца з Полацка з'явілася адным з многіх. Западозрыўшы ў палонным замаскіраванага лазутчыка, Машэраў адправіў яго ў штаб брыгады. Як потым высветлілася, гэта быў буйны спецыяліст СС па барацьбе з патрыятычным падполлем.

Трапляліся птушкі яшчэ большага палёту. У жніўні 1942 года да партызан трапіў нейкі Пасыпчук, які заявіў, што ён з'яўляецца камандзірам партызанскіх атрадаў Германіі, Польшчы, Заходняй Беларусі, прадстаўляе нейкі цэнтр і г. д. Ён меў воінскае званне палкоўніка і быў камандзірам танкавага палка, а потым трапіў у палон да немцаў.

— У мяне заданне трапіць на сустрэчу да каго-небудзь з Крамля,— заявіў ён. — Ніжэй рангам ні з кім размаўляць не стану. Пры сабе наваяўлены палкоўнік меў—ні мала, ні многа — падрабязныя звесткі, запісаныя ў блакноце пра Панамарэнку, Аўхімовіча, Клімава, даныя аб размяшчэнні атрадаў і брыгад Кароткіна, Мельнікава, Марчанкі, Дзьячкова, Шмырова, Амельчанкі і іншых. Акрамя таго ён меў дакладныя звесткі аб колькасці, узбраенні брыгады Кароткіна і многае іншае.

— А ты выпадкова не ведаеш, дзе мы спраўляем патрэбу!— у адчаі ўсклікнуў камандзір трэцяй Беларускай брыгады Аркадзь Якаўлевіч Марчанка. Палкоўнік набычыўся і маўчаў. Больш спакойны камісар брыгады Мікалай Акімавіч Новікаў спытаў:

— Навошта вы сабралі столькі сакрэтнай інфармацыі?

— Я іду ў Маскву і павінен пра ўсё там расказаць,— спакойна адказаў былы танкіст.

На пытанне: «Ад імя каго вы будзеце дакладваць?» ён нічога не адказаў.

Вопытныя камандзіры мудра вырашылі пераправіць такога ведаючага палкоўніка-танкіста франтавому начальству.

«Думаем, што нашы ў арміі па ўсіх гэтых пытаннях разбяруцца,— пісалі яны ў спецыяльным пасланні сакратару Віцебскага падпольнага абкома партыі Я. А. Жыляніну,— а там бачна будзе, куды ён ідзе».

Пасля стала вядома, што гэта быў буйны рэзідэнт гестапа.

***

Гітлераўцы спрабавалі дэзарыентаваць нашу моладзь, перацягнуць яе на свой бок. Яны абрушылі на юнае пакаленне шквал нахабнай хлусні фальсіфікацый, вытанчанага нацыяналізму і шавінізму, запалохвання і рэпрэсій. Быў створаны прафашысцкі «Саюз беларускай моладзі» (СМБ). Гэты так званы саюз адкрываў свае навучальныя ўстановы. Такую семінарыю акупанты адкрылі ў Вілейцы.

Савецкія патрыёты пайшлі на дзейсныя контрмеры. Першы сакратар Віцебскага падпольнага абкома КП(б)Б Іван Фролавіч Клімаў правёў спецыяльную нараду з камандзірамі, камісарамі, камсамольскімі актывістамі. На ёй было абмеркавана пытанне аб узмацненні ідэалагічнай работы сярод моладзі.

— Неабходна больш мэтанакіравана весці работы па зрыву мерапрыемстваў акупантаў,— падкрэсліваў Іван Фролавіч,—якія спрабуюць ствараць свае саюзы і розныя аб'яднанні. Часцей і больш даступна расказваць пра каварства гебельсаўскай прапаганды ў дакладах, гутарках, газетах, лістоўках. Ён папрасіў Машэрава звярнуць выключную ўвагу на выкрыццё каварных задум акупантаў у абурванні моладзі з мэтай зрабіць з яе здраднікаў Айчыны.

— Абком камсамола ўжо займаецца гэтай праблемай, у прыватнасці, гімназіяй у Вілейцы,— як заўсёды, дакладна далажыў Машэраў.

— Малайчына, Пятро, — дружалюбна паляпаў па плячы камсамольскага важака сакратар абкома.— Ты заўсёды разумееш нашы найпершыя мэты, умела будуеш тактыку барацьбы з фашысцкімі дзеяннямі ў тонкім нацыянальным пытанні.

Увогуле Іван Фролавіч Клімаў шмат зрабіў для станаўлення Машэрава як палітычнага дзеяча. Будучы таленавітым чалавекам, маючы за плячыма вялікі жыццёвы вопыт, ён многаму навучыў Пятра Міронавіча ў жорсткай барацьбе з каварным ворагам. Клімаў, вобразна кажучы, быў першай скрыпкай, якая ярка і пераканаўча заспявала на карысць Машэрава пры вылучэнні кандыдатуры на пасаду першага сакратара Вілейскага абкома камсамола. Але лепш дадзім слова самому Івану Фролавічу: «У Змыцкіх лясах на пэўны час спыніліся. Правялі работу ў брыгадзе імя К. К. Ракасоўскага... Тады пазнаёміўся з камісарам брыгады Пятром Міронавічам Машэравым, сціплым чалавекам і смелым байцом. Падумаў: вось падыходзячая кандыдатура на пасаду першага сакратара падпольнага абкома камсамола. Параіўся з адным, другім. Высветлілася, што ўсе вельмі высока цанілі П. М. Машэрава за маральную чысціню, спагадлівасць, асабістую храбрасць. Калі мы развіталіся з брыгадай імя К. К. Ракасоўскага, з намі адправіўся ў далейшы шлях П. М. Машэраў».

І далей:

У верасні 1943 года мы заслухалі паведамленне П. Н. Альшанскага аб дзейнасці абкома ЛКСМБ. Адзначалася, што за кароткі час ім створаны 13 падпольных райкомаў, палепшылася агітацыйна-масавая работа сярод моладзі. На пасяджэнні гаварылася аб упушчэннях камсамольскіх камітэтаў, у прыватнасці, аб недаацэнцы некаторымі арганізатарскай работы, недастатковым уздзеянні на моладзь у населеных пунктах. Абком КП(б)Б патрабаваў ад раённых партыйных камітэтаў, абкома ЛКСМБ накіраваць дзейнасць камсамольскіх арганізацый на ўзмацненне палітыка-выхаваўчай работы, мабілізацыю ўсіх сіл на хутчэйшы разгром ненавіснага ворага. Тады ж вырашылі пытанне пра першага сакратара Вілейскага абкома камсамола. Я ўжо ўказваў, што мы спыніліся на кандыдатуры П. М. Машэрава. Члены абкома партыі, сакратар ЦК ЛКСМБ Ф. А. Сурганаў прыйшлі да адзінай думкі: Пётр Міронавіч можа стаць сапраўдным важаком моладзі. Яго і зацвердзілі на гэтай высокай і адказнай пасадзе».

І. Ф. Клімаў унёс вялікі ўклад у развіццё партызанскага руху ў Беларусі. Ён каардынаваў і накіроўваў патрыятычнае падполле ў вялікім заходнім рэгіёне рэспублікі, удзельнічаў у распрацоўцы і ажыццяўленні дзёрзкіх аперацый па разгрому гарнізонаў праціўніка, падрыву яго камунікацый, складаў стратэгічных аб'ектаў. Пад кіраўніцтвам Клімава партыйнае падполле Вілейскай вобласці ўнесена ў летапіс усенароднай барацьбы беларускага народа супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Вывучыўшы тактыку ворага, ён умеў прадугледзець, гаворачы мовай шахматыстаў, свае дзеянні на шмат хадоў наперад. Так было напрыклад, і з «разлажэннем семінарыі «СБМ» у Вілейцы. Атрымаўшы падрабязныя ўказанні абкома партыі, Машэраў адразу ж намеціў агульны стратэгічны план ідэалагічнага наступлення на фашысцкі «Саюз беларускай моладзі». Ён разам з членамі бюро абкома камсамола В. І. Шымановічам, П. Альшанскім, Е. І. Гулей, С. А. Пранько напісалі пранікнёны і яркі зварот да моладзі.

«Адкрыццё школ і семінарый з'яўляецца ні чым іншым, — гаварылася ў ім,— як падрыхтоўкай да арганізаванага ўгону моладзі на катаржныя работы ў Германію або адпраўцы яе на фронт... Не ідзіце на правакацыі немцаў! Знішчайце фашысцкіх арганізатараў «СМБ»! Здабывайце зброю і ідзіце ў партызанскія атрады! Знішчайце нямецкіх фашыстаў і здраднікаў нашай Радзімы!»

Калі зварот быў апрацаваны, Машэраў спытаў сваіх таварышаў:

—Як лепш данесці нашы боль і трывогу за лёсы Беларусі і краіны да моладзі?

Першым унёс прапанову сакратар падпольнага абкома камсамола Віктар Іосіфавіч Шымановіч:

Перш за ўсё надрукуем яго ў нашым падпольным друку і выдадзім асобнымі лістоўкамі. Прычым, зробім гэта адразу ва ўсіх друкарнях.

**(Працяг будзе).**



# БРАТЭРСТВА

**У сучасны момант у нашай краіне адбываецца шмат сутычак на нацыянальнай глебе. Многія сцвярджаюць, што гэта—вынік мінулых гадоў, у тым ліку і часоў Вялікай Айчыннай вайны. Але ж гэта паклёп. Як удзельнік тых падзей, катэгарычна сцвярджаю,—не было тады ніякіх непаразуменняў на нацыянальнай глебе. Наадварот, было вялікае адзінства ўсіх народаў, вялікі патрыятызм, заваяванае крывёю братэрства. Без гэтага мы не здолелі б адолець такога жорсткага ворага, як фашызм. Пра гэта ішла гаворка і на апошняй сустрэчы былых лётчыкаў 218-й бамбардзіровачнай авіяцыйнай Яскай Чырванасцяжнай дывізіі, якая адбылася ў Кастраме—цудоўным горадзе на Волзе. Сюды з'ехаліся звыш 100 былых авіятараў — удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны. Непасрэдным арганізатарам яе з'явіўся мой былы камандзір, вядомы лётчык, узнагароджаны многімі ордэнамі і медалямі, палкоўнік у адстаўцы Спірыдонаў Анатоль Іванавіч. Ён цёпла вітаў усіх сваіх сяброў.**

**Як заўсёды, пры такіх сустрэчах шмат успаміналі пра былыя будні лётчыкаў, баявыя вылеты, пра тых, хто не прыляцеў з баявых заданняў.**

**Цяжкія дні ўспамінаем і мы: былы штурман экіпажа 452-га бамбардзіровачнага авіяцыйнага ордэна Багдана Хмяльніцкага Будапешцкага палка, Віктар Георгіевіч Гаравы, я—былы штурман экіпажа гэтага ж палка і былы лётчык Нікалаеў Іван Сцяпанавіч. Гэта былі незвычайныя ўспаміны, успаміны людзей, якія праз 43 гады даведаліся, хто выратаваў іх ад немінучай смерці, аб крывёю замацаваным братэрстве.**




**1944 год. Жыхары Сафіі вітаюць байцоў Чырвонай Арміі.**
**Фота з архіва БЕЛТА.**

### ГОСЦІ ЮГАСЛАЎСКІХ ПАРТЫЗАН

У штабе палка шасці экіпажам была пастаўлена адна задача: нанесці ўдар па жывой сіле і тэхніцы ворага ў сталіцы Венгрыі Будапешце. Палёт і бомбакіданне адзіночнымі самалётамі. Усе экіпажы былі выпушчаны з інтэрвалам 5—7 мінут. Метэаслужба дакладвала, што ў раёне цэлі надвор'е добрае, рэдкая высокая воблачнасць і добрая бачнасць, якія садзейнічалі выкананню баявога задання. Безумоўна, мы ведалі, як сталіца Венгрыі была прыкрыта зенітнай артылерыяй, пражэктарамі і іншымі сродкамі процівапаветранай абароны.

Вось на гарызонце паказаліся абрысы Будапешта, раздзеленага на дзве часткі светлай паласой дугі Дуная. Віктар Гаравы пільна глядзеў на зямлю, імкнучыся разабрацца ў бачных лінейных арыенцірах, пакуль не зварочваючы ад асноўнага курсу. Праз некалькі мінут успыхнулі з добры дзесятак іскравых праменяў зенітных пражэктараў, накіраваных у бок самалёта. Яны скрыжоўваліся па некалькі штук у адну кропку і няспынна рухаліся па цёмным небе насустрач строю. Напружанне экіпажа нарастала, але да цэлі было яшчэ далёка. Іскравыя прамяні на момант асляплялі лётчыкаў, але Ілья Чугуноў невялічкім манеўрам уходзіў ад іх...

Настаў самы адказны момант, з-за якога лётчыкі ляцелі сюды скрозь агонь і дым, скрозь прамяні пражэктараў. Бомбавы ўдар павінен быў быць нанесены па цэнтру Буды, размешчанаму на заходнім беразе ракі Дунай. Лётчыкі праляцелі праз увесь Пешт і на падыходзе да Дуная Віктар даў каманду: «На баявы!». Ілья завярнуў машыну крыху ўлева, «зацісну» самалёт па раней вылічаным Гаравым курсе, скорасці і вышыні. Ніякага манеўра! Віктар глядзеў у прыцэл і чакаў, калі падыдзе па разліковы вугал цэнтр Буды. Яму не трэба было даваць каманду: «Крыху ўлева! Крыху ўправа!» Таму што цэль была вялікая. Прамую трэба было вытрымаць прыкладна 30—35 секунд, інакш бомбы не трапяць у цэль. У разліковы момант Віктар націснуў на кнопку электрычнага скідальніка, і бомбы паляцелі на цэль, самалёт падкінула ўверх, гэта працягвалася 3—4 секунды. Адсутнасць на борце бомбаў аблегчыла манеўр у зоне зенітнага агню і прамянёў пражэктараў. Праз некалькі мінут палёту ўсё засталося ззаду. Стралок-радыст дакладваў аб колькасці бачаных ім узрываў бомбаў. Іх аказалася 12 замест 14. Гаравы адразу ўстанавіў, што дзве бомбы не скінуты. Ён дае каманду на адваротны курс і просіць Ілью выкарыстаць ручку аварыйнага скідання бомбаў, якая знаходзілася ў яго кабіне. Але, на жаль, бомбы заставаліся на месцы. Ні крутое зніжэнне з рэзкім вывадам, ні пакачванне самалёта, ні іншыя манеўры не далі чаканых вынікаў: бомбы засталіся ў люках.

Надвор'е зноў пачало пагаршацца. Нізкая воблачнасць прыціскала самалёт да зямлі, бачнасць значна пагоршылася. Экіпаж трапіў у паласу дажджу, што значна пагоршыла арыенціроўку. Па разліку да свайго аэрадрома заставалася 10, 15 мінут палёту. Але прывадны светлавы маяк не быў бачны. Як потым высветлілася, ён часова выйшаў са строю — лётчыкі не маглі выйсці на месца пасадкі. Чугуноў паспрабаваў звязацца з радыёпеленгатарам па коду: «Волга, дай снарад». Пеленгатар павінен быў па гэтаму запыту вызначыць месца знаходжання самалёта і даць курс на аэрадром. Але гэта экіпажу не ўдалося. Спроба настроіцца на маяк запаснога аэрадрома таксама не дала выніку.

Шукаць аэрадром пад ніжняй кромкай воблачнасці на вышыні 100—150 метраў было надзвычай рызыкоўна.

Але неабходна было дзейнічаць. Перайшлі на эканамічны рэжым работы рухавікоў, пачалі набіраць вышыню. Паказаўся месяц, а ўнізе — белыя серабрыстыя воблакі, і самалёт рухаўся па іх, як лодка па пеністых хвалях. Прыгожы малюнак! Але ён не радаваў лётчыкаў. Узялі курс на поўдзень, на Дунай, дзе рэльеф роўны, пачалі шукаць пляцоўку для вымушанай пасадкі. Але трэба было зрабіць яшчэ некалькі спроб, каб вызваліцца ад небяспечнага грузу, бо невядома, у якім становішчы бомбы знаходзіліся, і яны маглі ўзарвацца пры жорсткай пасадцы. Гэты груз надзвычай непакоіў лётчыкаў.

Рашэнне на пасадку ўвесь экіпаж успрыняў спакойна. Самалёт ляцеў на вышыні 100—150 метраў. Усю нагрузку вымушанай пасадкі з бомбамі лётчыкі разумелі, але іншага выйсця не было. Пляцоўка знойдзена... Лямпачка кантролю паліва ў кабіне Чугунова стала часта мігцець, камандзір загадаў падрыхтаваць ракеты для надсветкі мясцовасці, прышпіліць моцна прывязныя рамяні.

Па ўнутранай сувязі члены экіпажа пачулі спакойны голас Чугунова: «Прызямляемся». І ў гэты момант лёгкі штуршок — дотык да зямлі і ў гэты момант самалёт плаўна заскакаў па паверхні зямлі і праз некалькі хвілін спыніўся. Настала цішыня. Потым пачуўся голас камандзіра: «Як справы?»

Выбіраліся са сваіх кабін кожны асобна. Вакол — ціха, ціха! Туман закрываў самалёт. Хацелася курыць. Выціраючы пот рукавом, Віктар з лётчыкам абышлі вакол самалёта. Поласці вінтоў спыніліся ў паветры ў такім становішчы, што нават пры вымушанай пасадцы засталіся цэлымі. Паломак не было відаць. «Ілья, выдатна пасадзіў самалёт» — адзначыў штурман. «Стараўся, як мага лепш», — адказаў Ілья. Потым прайшлі крыху наперад і ўбачылі, што яны селі на ўбранае кукурузнае поле. Наперадзе, па курсу самалёта, метрах у 200 знаходзілася капітальная студня з моцнай пабудовай і «жураўлём» для пад'ёму вады. Стала зразумела, што экіпажу надзвычай пашэнціла, асабліва штурману Віктару Гараваму. Няцяжка ўявіць, што было б ад удару аб такую магутную перашкоду. Мог «сказаць сваё важкае слова» і груз у бамбалюках, калі б экіпаж прызямліўся пазней на 2—3 хвіліны. Але ўсё добра, што добра скончылася.

Адразу ж перад экіпажам паўсталі пытанні: «Дзе яны?», «Дзе ворагі?» Пытанні былі, але адказаў не было. Шукаць адказу ўначы лётчыкі не сталі. Адышлі ад самалётаў метраў на дзвесце і астатні час правялі ў вялікай капе кукурузы. Раніцай пачуўся брэх сабак, што азначала: людзі знаходзяцца блізка. Калі развіднела, лётчыкі выйшлі з капы і пачалі глядзець у бок самалёта. Вакол яго была група людзей у цывільным адзенні, але добра ўзброеных. У іх руках былі аўтаматы, а на паясах — нямецкія гранаты. Яны адзін аднаму паказвалі на зорку, што была на баку фюзеляжа самалёта, і на хваставы нумар на кілі. У стралка-радыста Смірнова быў аўтамат, і ён са згоды лётчыкаў пайшоў у бок самалёта, даведацца, што за людзі там? Астатнія члены экіпажа з пісталетамі ў руках сачылі за ім і людзьмі. Смірноў падыходзіў усё бліжэй і бліжэй да самалёта, але людзі не звярталі на яго ніякай увагі. Праз дзве-тры мінуты ён узняў уверх аўтамат і гучна сказаў: «Югаслаўскія партызаны!» Хутка лётчыкі аказаліся каля сваіх сяброў. Якая гэта была радасць. Вакол лётчыкаў былі надзейныя сябры.

Свята Вялікага Кастрычніка лётчыкі сустрэлі сярод сяброў-пабрацімаў.

### ТРАГЕДЫЯ, ЯКАЯ АДБЫЛАСЯ ПРАЗ МЕСЯЦ

Пасля невялікага рамонту самалёт быў у страі. Роўна праз месяц, 5 снежня 1944 года, днём у складзе гэтага ж экіпажа (акрамя Смірнова, замест яго лятаў Панамароў В. Г.) было суджака зрабіць чарговы баявы вылет, у час якога машына была разбіта цалкам пры вымушанай пасадцы.

Што ж здарылася 5 снежня 1944 года? У той памятны дзень камандаванне паставіла задачу першай эскадрыллі: нанесці баявы ўдар па скапленню жывой сілы і тэхнікі ворага ў населеным пункце на подступах да Будапешта. Вёў групу камандзір першай эскадрыллі, Герой Савецкага Саюза капітан Цароў Аляксей Васільевіч (цяпер жыве ў горадзе Зеленагорску Ленінградскай вобласці).

Надвор'е было добрае, воблачнасць 3—5 балаў, бачнасць выдатная. Самалёт Віктара Гаравога ішоў у левым звяне і займаў месца правага вядомага. Праз некалькі мінут палёту шчыльным строем з наборам вышыні самалёты накіраваліся да цэлі. Пры групавым вылеце ў шмат разоў узрастала адказнасць за выкананне баявога задання камандзіра групы і штурмана. На борце кожнага самалёта было 14 фугасных бомбаў, а ва ўсёй эскадрыллі — 126. Удар яе магутны, і памылкі не павінна быць. Камандзір групы пры падыходзе да цэлі абавязаны абавязкова па радыё атрымаць дазвол бамбіць цэль або ісці на запасную. Інакш уся адказнасць, нават да суда ваеннага трыбунала, клалася на яго плечы.

Група набліжалася да лініі фронта. Вышыня палёту 2 тысячы метраў. Пры заходзе на цэль самалёты трапілі ў зону зенітнага агню. Паступіла каманда камандзіра расканцэнтравацца, што крыху аблегчыла манеўр. Уся ўвага на камандзіра эскадрыллі. У яго самалёце адкрыліся бамбалюкі, гэта ж самае зрабілі ўсе. Вядучы пачаў бомбакіданне, тое самае зрабілі астатнія, і затым узялі курс на разварот. Снарады рваліся злева і справа. Адзін з іх разарваўся зусім блізка—і адразу ж левы матор машыны Гаравога застукаў і заглух. Вінт перастаў рухацца, паказаўся дымок. Самалёт пачаў зніжацца, бо адзін рухавік не мог забяспечыць неабходную скорасць. Знішчальнікам была дадзена каманда прыкрыць самалёт і адразу ж пара Як-3 размясціліся вакол яго. Самалёт ляцеў на свой аэрадром, але ўпэўненасці ў тым, што даляціць, не было. Падумаўшы, вырашылі зрабіць пасадку на аэрадроме, адкуль узляталі нашы знішчальнікі.

Але надзеі экіпажа на пасадку на аэрадроме адразу ж рухнулі, бо ледзь працуючы рухавік не мог вытрымаць двайной нагрузкі, перагрэўся і адразу ж заглух. Вышыня палёту была 100—120 метраў. Рабіць пасадку было нельга. Наперадзе быў населены пункт. Чугуноў пачаў цягнуць на вялікае поле, якое знаходзілася справа і наперадзе. Калі да яго заставалася зусім мала, з'явілася палявая дарога, паабапал якой раслі таполі. Перад самымі дрэвамі, каб пазбегнуць удару, лётчык рэзка паклаў самалёт на крыло, машына рухнула на зямлю. Лётчыкі знішчальніка бачылі ўпаўшы самалёт і адразу ж паведамілі аб гэтым камандаванню.

У гэты час на аэрадроме быў лётчык упраўлення нашай дывізіі Нікалаеў Іван Сцяпанавіч. Ён па загаду камандзіра дывізіі палкоўніка Раманава падтрымліваў узаемадзеянне экіпажаў бамбардзіроўшчыкаў і знішчальнікаў. Адразу ж Іван Сцяпанавіч разам з адным лётчыкам - знішчальнікам, які бачыў падзенне самалёта, на По-2 вылецелі на месца аварыі для аказання дапамогі пацярпеўшым. Пасадка для іх была надзвычай складанай, але лётчыкі селі побач з бамбардзіроўшчыкам.

Вось што расказаў Іван Сцяпанавіч Нікалаеў праз 43 гады пры сустрэчы ў Кастраме: «У тыя мінуты я не мог думаць пра сябе, а толькі пра загінуўшых баявых сяброў. Хутка даляцелі да месца аварыі. Прызямліліся як мага бліжэй да бамбардзіроўшчыка. Кабіна штурмана адляцела ад самалёта на некалькі метраў, і з яе вываліўся цяжка паранены штурман Віктар Георгіевіч Гаравы. Накладваю шыну на зламаную руку, тугія павязкі на адкрытыя траўмы твару, галавы. Вось калі спатрэбіліся сціплыя медыцынскія веды, якія былі набыты за тры гады вучобы ў Варашылаўградскім медыцынскім тэхнікуме.

Але пад абломкамі самалёта знаходзіліся яшчэ тры мае сябры: камандзір Чугуноў, радыст і стралок. Знаходзім аварыйныя сякеры і адразу пачынаем сячы металічную канструкцыю. Неабходную дапамогу аказваюць нам венгерскія сяляне, якія прыбылі з навакольных вёсак. Асцярожна дасталі ўсіх лётчыкаў. Усе яны былі без прытомнасці. Пакуль мы аказваем дапамогу лётчыкам, мясцовыя сяляне падрыхтавалі дзве падводы, каб адправіць параненых у бліжэйшы шпіталь. Так гартавалася братэрства ў ліхую гадзіну».

Толькі праз 43 гады Гаравы і яго сябры даведаліся, хто ратаваў іх ад немінучай гібелі.

Некалькі слоў пра лёс выратаванага экіпажа. Лётчык маёр Чугуноў пасля лячэння працягваў знішчаць фашыстаў на пасадзе камандзіра эскадрыллі. Пасля вайны да 1960 года служыў у лётных часцях. Пасля дэмабілізацыі працаваў старшым інжынерам на машынабудаўнічым заводзе ў горадзе Хімкі Маскоўскай вобласці. З 1988 года па стану здароўя на заслужаным адпачынку.

Штурман Віктар Георгіевіч Гаравы пасля дэмабілізацыі ў 1946 годзе скончыў сельскагаспадарчую акадэмію імя Ціміразева і да 1986 года працаваў у Кашырскім раёне Маскоўскай вобласці аграномам, а потым старшынёй калгаса. Цяпер па стану здароўя на заслужаным адпачынку.

Радыст Панароў пасля дэмабілізацыі жыве ў горадзе Наманган Узбекскай ССР.

Так гартавалася братэрства ў барацьбе з фашызмам.

**Р. БУЛАЦКІ,**
**былы штурман экіпажа 452-га ордэна Багдана Хмяльніцкага Будапешцкага авіяпалка, цяпер доктар гістарычных навук, прафесар.**

**P. S. Калектыў рэдакцыі віншуе Рыгора Васільевіча Булацкага з 70-годдзем!**

# 5 МАЯ—ДЗЕНЬ ДРУКУ

*Погляд студэнта на журналістыку*

## Папяровы спрут

Дзе вы бачылі чалавека, які пастаянна, штодзень ставіў бы грамадскі дабрабыт вышэй за ўласны? Так, няшмат такіх, а зараз і наогул мала, таму што цяжка зразумець, што шчасце, а што—не. Людзі пішуць, людзі ўкладваюць душу ў свае матэрыялы, а тыя выходзяць і трапляюць у макулатуру, нічога не мяняючы. Асабліва добра гэта было ў застойныя гады. Колькі ні білі ў бубен, каменны ідал не рухаўся з месца. Больш таго, журналіст быў ідэалагічным нявольнікам сістэмы і абдурваў іншых свядома, па добрай волі і перакананню.

Справа ў тым, што і зараз падобная практыка працягваецца, часцей у газетах сярэдняга і ніжэйшага ўзроўняў. Усюды засталіся тыя ж кадры, тыя ж начальнікі, рэдактары-вылучэнцы, усе ведаюць, як і што пісаць, каб забіць газетную плошчу радкамі. Нічога не змянілася, хоць у сувязі з перабудовай і чуюцца з палос свежыя галасы цікавых людзей, незвычайныя меркаванні і ідэі, але і тыя часцей за ўсё ў выпусташанай форме, прыемнай казённаму стылісту. Дзіўна, што пры гэтым магчыма наогул нейкая творчая работа. Тут і спрацоўвае славуты «прафесіяналізм». Паспрабуйце год, два, дзесяць, пятнаццаць запар пісаць і рэдагаваць артыкулы пра светлую будучыню, аб патрыятызме, пра нейкія патрэбы і ўборку ўраджаю. Кожны дзень! Вядома, што пастунова гэта прыядаецца і ператвараецца ў механічны рух думкі і рукі. Прэч усе гарачыя памкненні, ідэалы, радасць і боль людскі перастаюць існаваць, выклікаць перажыванні, ператвараюцца ў прадмет працы. Ідэі, трапляючы пад пяро, высмактаныя да апошняга радка, гінуць, і журналісцкая братва ўпадае ў цынізм.

А я не разумею, напрыклад, што чалавек можа і хоча працаваць журналістам ад універсітэта да пенсіі. Пры ўсім жаданні, папяровы спрут няўмольны і з'есць яго, хіба толькі ён стане крывадушнікам, на самай справе даўно выпрацаваўшы імунітэт да сапраўднага пачуцця. Аб якой творчасці можна гаварыць, калі кожны дзень пісаць, апрацоўваць і зноў пісаць, і так шмат гадоў запар, на не цікавячыя цябе тэмы, па абавязку службы. Тут хочаш не хочаш, пачнеш пячы «бліны» папрасцей ды хутчэй. Бо журналіст таксама, як ні дзіўна, жывы чалавек, які не адрозніваецца ад іншых нічым. Жыве ён у такім жа доме, што і вы, ездзіць на работу ў грамадскім транспарце, і, абавязаны абараняць іншых, іх правы, сам гэтак жа бяспраўны і залежны. Яму таксама прыходзіцца дзесяткі гадоў чакаць кватэры, стаяць у чэргах, ладзіць з начальствам, каб жыць. Але яму цяжэй, бо ён, як ніхто, ведае жыццё, і яго быт часта ўступае ў супярэчнасць з яго грамадскай роллю.

Быццам папяровы чарвяк, боўтаецца наш журналіст, працуе, як вол, пераварочваючы плугам вялізнае папяровае поле. Тады як увесь астатні свет даўно піша прама на камп'ютэрах, у нас жа ўсё па-ранейшаму. Колькі пры такім тэмпе апрацуеш інфармацыі? Вось і гоніць халтуру. А з гэтай халтуры ўсё і пачынаецца. Зарплата ў журналіста кепская. Можа гэта ў нас палітыка такая, каб людзей творчых трымаць на галодным пайку, маўляў, ім і духоўнай ежы хопіць, не памруць! Вось і прыходзіцца журналістам дзеля сям'і гандляваць па частках душой і сумленнем. Нездарма гавораць, што журналісты — другая старадаўняя прафесія пасля прастытуцыі. І сістэма прымушае журналіста з-за галечы гандляваць сабой.

Ну, а журналіст — чалавек вельмі вясёлы, мае мноства знаёмстваў на ўсіх узроўнях і таму асабліва хутка абрастае сувязямі і кампенсуе недададзеную зарплату камерцыйнымі здзелкамі і службай «ценевікам». Прыватны выпадак? Так, але... Што далей? Мяркую, што газеты хутка будуць гэтак жа старанна служыць капіталістычным магнатам, як да гэтага — ідэалагічнай машыне камуністычнай дыктатуры. Заказвае музыку той, хто плаціць.

Памятаеце, як яшчэ гадоў пяць таму кляймілі заходнюю прэсу за прапаганду сексу і гвалту? Прабачце, а ці не гэта адзінае сёння, найбольш чытаемае нашым працоўным і шматнацыянальным народам? Ну яшчэ прываблiваюць розныя сенсацыі, НЛА, экстрасенсы, магія і астраномія. І вось ужо той, хто хоча выжыць ва ўмовах рынку, паслухмяна падае натоўпу сурагат. Так што, дарагі чытач, на праўдзівую інфармацыю можаш і не разлічваць, хіба толькі канкурэнцыя прымусіць, калі цяперашняя кашка прыесца.



Крытыкуючы ўсё навокал, прэса і не падумала сур'ёзна пацягаць сябе за вушы, відаць, вырашыўшы, што ўсё і так добра. Ніхто не можа адмаўляць тую ролю, якую адыгралі журналісты ў перабудове, але не трэба забываць, што перабудаваліся яны па камандзе зверху і вельмі хутка, але і потым аднадушна падтрымлівалі ўсе праграмы партыі і ўрада. Пакуль краіна зусім не паклала зубы на паліцу.

У сувязі з гэтым паўстае пытанне і аб прафесійнай кар'еры журналіста. Кім ён стане ў рэшце рэшт? Рэдактарам якога-небудзь часопіса, уласным карэспандэнтам, ці спецкарэспандэнтам больш-менш буйнога выдання? І ўсё? А калі я, напрыклад, хачу перавярнуць гэты свет, што мне рабіць? Чаму ў нас амаль няма вядомых, знакамітых журналістаў, якія ёсць, напрыклад, на тэлебачанні? Усё больш шэрая брацiя, якая працуе больш-менш паспяхова і таленавіта. Чаму так мала імён на слыху пішучых бліскучых палемістаў і аналітыкаў? Зараз журналіст можа стаць сапраўды прыкметным, толькі стаўшы палітыкам, дэпутатам, пісьменнікам або з'явіўшыся на тэлеэкране. Якім павінен быць журналіст? На маю думку, гэта чалавек сумленны, чысты і прыстойны, дзейны, які б мог выказаць і адстаяць думку сваю і грамадства, штосьці прапанаваць і быць адказным. На жаль, гэтыя патрабаванні немагчыма прад'явіць пры паступленні на работу, а ідуць у газеты людзі розныя. Для адных журналістыка — абавязак перад грамадствам, а для другіх — зручная, хоць і цяжкая работа, дзе заўсёды можна знайсці сабе цёплы куток. У выніку выбіраць, каго чытаць, а каго не, вам, чытачы. Выбірайце.

**Мікалай ХІМАРДЗІН,**
**студэнт ф-та журналістыкі**
**БДУ імя У. І. Леніна.**

## КУДЫ ПАЙСЦІ ВУЧЫЦЦА?




### Віцебскае сярэдняе ПТВ № 134

**ЗАПРАШАЕ НА ВУЧОБУ**

**ДЗЯЎЧАТ, ЯКІЯ СКОНЧЫЛІ 8—10 КЛАСАЎ**

Вучылішча рыхтуе кваліфікаваныя рабочыя кадры для віцебскай абутковай фабрыкі «Чырвоны Кастрычнік» і сумеснага прадпрыемства «Белвест» па наступных спецыяльнасцях:

**НА БАЗЕ 8 КЛАСАЎ**

1. Зацяжчык абутку, зборшчык нізу абутку (з уменнем працаваць на ліццявых агрэгатах).
2. Зборшчык верху абутку, аператар канвернай лініі.
3. Зборшчык верху абутку.

**НА БАЗЕ 10 КЛАСАЎ**

1. Зборшчык верху абутку, аператар канвернай лініі.
2. Зацяжчык абутку, зборшчык нізу абутку (з уменнем працаваць на ліццявых агрэгатах).
3. Зборшчык верху абутку, кантралёр АТК.

Навучэнцы, якія паступілі ў вучылішча на базе 10 класаў, вучацца 1 год і атрымліваюць стыпендыю ў размеры 80 рублёў. Даплата прадпрыемства — 40 рублёў.

Выдатнікам вучобы стыпендыя павялічваецца да 25 працэнтаў.

Навучэнцы, якія паступаюць на вучобу на базе 8 класаў, вучацца тры гады, знаходзяцца на поўным дзяржаўным забеспячэнні, атрымліваюць дыплом аб сярэдняй адукацыі і прафесію. Паспяваючыя навучэнцы атрымліваюць стыпендыю ў размеры 40 рублёў на 1 курсе, 80 рублёў на 2 і 3 курсах.

У час праходжання практыкі ўсе навучэнцы атрымліваюць 50 працэнтаў ад заробленай сумы. Вучылішча мае добрую матэрыяльна-тэхнічную базу. Час навучання ў вучылішчы залічваецца ў рабочы стаж. Навучэнцы, якія скончылі вучылішча з дыпломам на «выдатна», карыстаюцца правам паступлення ў сярэдне-тэхнічныя, вышэйшыя навучальныя ўстановы па-за конкурсам на правах медалістаў сярэдніх школ. Жадаючыя ў час вучобы могуць займацца на падрыхтоўчых курсах у тэхналагічным інстытуце.

Паступаючыя ў вучылішча падаюць наступныя дакументы: заяву на імя дырэктара, дакумент аб адукацыі, тры фотакарткі (3×4 см), даведку з месца жыхарства, медыцынскую даведку (форма № 286).

Прыём дакументаў да 25 жніўня. Пачатак заняткаў з 1 верасня. Дакументы падаюцца ў прыёмную камісію асабіста або па пошце па адрасу: 210017, г. Віцебск, вул. Гагарына, 39, ПТВ № 134. Прыёмная камісія.

Тэлефоны: 4-59-57, 4-49-11, 4-65-23, 4-67-34.

Праезд аўтобусам № 2 або трамваем №№ 1, 3, 5 да прыпынку «Аўтакалона».

**ДЫРЭКЦЫЯ.**

### Маладзечанскае ПТВ № 121 будаўнікоў

**АБ'ЯЎЛЯЕ ПРЫЁМ ЮНАКОЎ І ДЗЯЎЧАТ**

**НА БАЗЕ 9 КЛАСАЎ З ТЭРМІНАМ НАВУЧАННЯ 3 ГАДЫ ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦЯХ:** маляр (будаўнічы); тынкоўшчык з уменнем выконваць абліцовачныя, плітачныя і мазаічныя работы; тынкоўшчык; абліцоўшчык-плітачнік; муляр; мантажнік сталёвых і жалезабетонных канструкцый; электразваршчык ручной зваркі; мантажнік санітарна-тэхнічных сістэм і абсталявання; газазваршчык; станочнік; сталяр (будаўнічы), цясляр; электрамантажнік па асвятленню і асвятляльных сетках; электразваршчык ручной зваркі; электразваршчык на аўтаматычных і паўаўтаматычных машынах; повар; кандытар.

Навучэнцы гэтых спецыяльнасцей забяспечваюцца чатырохразовым харчаваннем, штодзённай і спецвопраткай, карыстаюцца льготным праездам на транспарце. У перыяд вытворчай практыкі ім выплачваецца 50 працэнтаў заробленай сумы.

У вучылішчы працуюць прадметныя і тэхнічныя гурткі, ансамбль песні і танца, секцыі дзюдо, барацьбы, спартыўнага арыентавання, плавання і іншыя. У аўтаклубе вучылішча можна набыць правы на кіраванне матацыклам. Да паслуг навучэнцаў спартыўная і актавая залы, зала атлетычнай гімнастыкі, маладзёжнае кафэ, відэасалон.

Выпускнікам выдаецца дыплом аб сярэдняй адукацыі з прысваеннем разраду (3—4) па спецыяльнасці. Скончыўшыя вучылішча з адзнакай (75 працэнтаў ацэнак «5») карыстаюцца льготамі пры паступленні ў ВНУ і тэхнікумы. Час навучання залічваецца ў працоўны стаж.

Для паступлення ў вучылішча патрабуюцца: дакумент аб адукацыі, даведка з месца жыхарства аб складзе сям'і, пасведчанне аб нараджэнні або пашпарт, 6 фотакартак (3×4 см), медыцынская даведка (формы №№ 286, 25-Ю).

Прыёмная камісія працуе ў вучылішчы з 9.00 да 17.30.

**АДРАС ВУЧЫЛІШЧА:** 222310, г. Маладзечна Мінскай вобл., вул. Пушкіна, 111. ПТВ № 21. Тэлефоны: 7-61-47, 7-26-84, 7-77-11.

Прыём дакументаў да 31 жніўня.

*Як гукнецца...*

# ЧАС ЗБІРАЦЬ КАМЯНІ

**НАДЫХОДЗІЦЬ ДЛЯ КОЖНАГА НАСТАЎНІКА. І, КРЫЙ БОЖА, КАБ ГЭТЫ КАМЕНЬ НЕ БЫЎ КІНУТЫ Ў ВАС**

**Вам памятник, учителя,**
**Я высек бы из красного гранита.**
**Установил бы на просторе я**
**Большое человеческое сердце.**
**Что всем словам и всем ветрам открыто.**

Прыгожыя словы. Але так і хочацца сказаць, што паэт, на жаль, памыліўся. Адна палова сэрца чырвоная і чыстая, а другую трэба зрабіць чорнага колеру... Кашчунства! — усклікнуць многія, — як яна можа...

А вось паслухайце, як іншыя могуць. Дваццаць гадоў назад. Першае верасня. Школьны двор расквечаны ўсмешкамі. У адным яго кутку, нясмела збіўшыся ў гурт, моцна трымаючыся за маміны рукі, стаяць першаклашкі. Аднолькава прыгожыя, з шырока раскрытымі вачыма. Мілыя дзеці, што чакае вас за дзвярыма гэтага будынка, якія біркі павесяць на вас, які крыж прыйдзецца вам несці да заканчэння гэтага «цудоўнага дома», якім для вас зараз здаецца школа? Хто з вас будзе ў элітарнай «праслойцы», а хто—вечным «казлом адпушчэння»?

— А гэта, дзеці, ваша настаўніца. А ў гэтым класе вы будзеце вучыцца...

Па просьбе людзей я змяніла прозвішча настаўніцы і імёны яе былых вучняў. Усё ж праўду кажуць, што сэрца людское на зло дабром адказвае. Не даравалі ёй многага людзі, але шкада яе стала: «Яе і так Бог пакараў за ўсё — два гады паралізаваная ляжала, ды і не любіць яе ніхто ў нас у вёсцы».

Размаўляю з яе былымі вучнямі.

— Калі мы дрэнна пісалі, то яна клала нашы рукі і лінейкай біла альбо крышкай ад парты: «Ці будзеш добра пісаць, ці будзеш...»

— Неяк Красніцкая Воўку Шаланду за тое, што ён дрэнна пісаў, падвяла да грубкі і — рукі да агню, каб не спаліць, але каб добра прыпякло.

— Мы на ўроках у яе баяліся паварушыцца, слова лішняе сказаць. Помню адзін выпадак. Я ўвесь час блытала літары, лічбы. Магла замест шэсць дзевяць напісаць. Дык яна ўзяла за ногі (я самая маленькая была ў класе), перавярнула дагары нагамі і так трымала, прыгаворваючы: «А ці добра, калі б цябе так уверх нагамі паставіць?»

— А яшчэ за вуха паднімала. Мішку Ладзіку аж вуха крыху разадрала, кроў ішла. А калі дыктант быў, дык Красніцкая хадзіла паміж радамі і біла па галаве лінейкай (у яе такая метровая была). Як памылку зрабіў хто, дык яна спадцішка ззаду як трэсне. Тут ад нечаканасці і заікай стаць можна было. Нават да крыві рассякала. Але адарвеш кавалачак паперы і ціхенька кроў прамакаеш ды маўчыш.

— Але ж яна так не да ўсіх ставілася, былі ў яе любімчыкі, дзеці «начальства»: сакратара партарганізацыі, дырэктара саўгаса, старшыні сельсавета, настаўнікаў. У простых сем'ях звычайна было шмат дзяцей, дык дзе там за ўсімі ўгледзець. Дый у бацькоў якая там адукацыя была! Што яны маглі растлумачыць? А настаўніца, калі вучань не разумеў чагосьці, намотвала валасы на руку і біла галавой аб сценку. Марынцы Багдзей аж валасы пасмамі павыдзірала. А тая іх дамоў прынесла, паказала і плача: «Красніцкая выдрала». Бацька за тыя валасы — і ў школу. Нават судзіліся потым.

— А вы што маўчалі, калі яна так з вас здзекавалася?

— Паспрабуй скажы — заб'е зусім. Мы баяліся гаварыць. І калі прыйшла з гарана камісія, у нас спыталі пра ўсё, дык мы баяліся сказаць. Хаця і Красніцкая наша за дзверы выйшла, мы ўсё роўна баяліся. Бо жыцця тады б не было ад яе.

— Раней яе вучні лічыліся самымі лепшымі. З гарана заўсёды праверкі прыязджалі, сюды вазілі ўсіх вопыт пераймаць. Хацелі ёй нават званне народнай прысвоіць, медалямі яе ўзнагародзілі. А пасля гэтага выпадку з Марынай Красніцкую нават з работы хацелі звольніць.

— Яна не толькі біла, а яшчэ і маральна здзекавалася. Асабліва з дзяцей з мнагадзетных сем'яў. Звычайна апраналіся ў абноскі, бо дзе там бацькі накупляюцца новага. Некаторыя хадзілі часта замурзаныя, у бруднай вопратцы, бо бацькі пілі. Дык яна заўсёды такіх дзяцей рабіла пасмешышчам. Паставіць у кут і кажа:

— Глядзіце на гэту мурзу, не сябруйце з ёй такой.

— А памятаеце, як яна аднаго разу захварэла і два тыдні не хадзіла ў школу. Замяняла яе Валянціна Васільеўна. Гэта былі зямля і неба. Мы спачатку ніяк прывыкнуць не маглі, яна падыдзе да каго-небудзь, а той галаву ў плечы хавае, чакае ўдару... А калі хто на ўрок да Красніцкай заходзіў, у яе і голас, і паводзіны адразу мяняліся. А паказальныя ўрокі — дык яе зусім было не пазнаць. Як бачыце, умела яна і іншай быць.

Больш як 25 гадоў працавала гэтая настаўніца ў школе. Колькі душ паспела скалечыць! Ды і не толькі душу, а і веру нявечыла, веру ў дабро і справядлівасць. Доўга потым прыходзілася адаграваць маленькія сэрцы, і добра, калі трапляліся ім на шляху сапраўдныя добрыя людзі.

— Я помню, і пасля заканчэння школы, калі ўжо ў тэхнікуме вучылася, была, як вожык, людзі да мяне, а я ім калючкі настаўляла. І сяброў у мяне не было. І хочацца мне сказаць вялікае дзякуй нашаму класнаму кіраўніку, добраму чалавеку і сапраўднаму настаўніку Уладзіміру Антонавічу Папковічу, які зараз працуе ў Віцебскім педінстытуце. Каб ён не заўважыў мяне, на ўсё жыццё засталася б маральным калекам. Вылечыў ён драпіны на душы і памяці.

Вы маеце права, паважаныя чытачы, спытаць у мяне, а якая табе справа да ўсяго гэтага? Што было, тое быллём парасло. Не, не ўсё парасло. Парасткі гэтыя і цяпер даюць усходы ў нашых школах:

— Што, сшытак забыў? А пажраць ты дома не забыў?.. Чаго равеш? Ніякай культуры няма, разявяць пашчы і равуць.

Чым жа можа выхаваць такі настаўнік — прыкладам? Дома дзеці ў многіх сем'ях бачаць такія адносіны паміж бацькамі, а тут яшчэ і ў школе. Праглядзелі мы гэтае пакаленне, спустошаны душы ў многіх, знявечана вера, адсюль і жорсткасць, і нізкі культурны ўзровень.

— Так, першы рад — селі! Так, так... другі рад таксама. Та-а-ак. А трэці пастаіць. Яны стаяць не ўмеюць. Пасядзім, дзеці, пачакаем, пакуль трэці рад навучыцца стаяць.

Мне не пашанцавала з радам. Трэці рад лічыцца самым дрэнным. Трапіць туды прасцей паранай рэпы, а вось выбрацца... І я зайздрошчу тым, хто сядзіць на першым. Зайздрасць—пачуццё для мяне амаль што новае. Раней я зайздросціла Мішку, што ён самы моцны і так здорава ездзіць на кані. Але школьная зайздрасць іншая. І яна нараджае розныя мары. Напрыклад, такую: наш выдатнік Саша атрымлівае «двойку». Не, лепш не так, усяму класу, акрамя мяне, паставілі «двойкі» за дамашняе заданне. А ў мяне «пацёрка» з плюсам. Я дакладна памятаю, мара гэтая з'явілася ў мяне не адразу, а, як кажуць, у працэсе выхавання.

Але гэта толькі мары, а ў жыцці — на нашым радзе сабраліся самыя што ні ёсць нікуды не вартыя. І толькі праз шмат гадоў я зразумела: у нашай школе згінеш у «слабых», калі сям'я, бацькі не выратуюць (але ж і бацькі розныя бываюць), альбо сам не навучышся выкручвацца. Барацьба за выжыванне. У сем, дзесяць гадоў...

— На ўроках нічога не слухае, круціцца,—гэта пра Андрэя. Маці хлопчыка ў разгубленасці, пачынае крычаць на яго:

— Бессаромнік, павярніся мне яшчэ раз, я табе...

А ў хлопчыка, які стаіць, сціснуўшыся ў камяк, толькі ўздрыгваюць плечы. Але Андрэй не самы дрэнны. Вось Косця! Больш правільна, Шкрадаў. Забылася, што па імёнах мы толькі першы час называлі адзін аднаго, а потым пераймалі ў настаўніцы — па прозвішчах. Ну дык вось, гэты Шкрадаў быў «самы адпеты». «І шлях яму адзін — у турму». Так кажа наша настаўніца. Помню, як прыйшла ў клас маці Косці, замучаная жанчына сярэдніх гадоў.

— Я ўжо і не ведаю, што з ім рабіць? Учора бацька так яго лупцаваў, што ўся спіна, напэўна, сіняя. Да смерці забіў бы, каб я не адабрала. І на каленях стаяў потым увесь вечар. Стаіць і маўчыць, скаціна такая, хоць бы ўжо прабачэння папрасіў. І не плача, толькі вачамі бліскае. Ой, горачка маё, што рабіць?! Настаўніца з разуменнем ківае галавой. А Шкрадаў стаіць ля сцяны, яго вочы глядзяць некуды ў адну кропку, яны здаюцца пустымі. А мы слухаем, нас ніхто не гоніць. Мы любім слухаць, як каго-небудзь прапясочваюць. І радуемся: «Вось уляціць яму дома».

Косця вучыўся з намі да трэцяга класа. А потым іх сям'я некуды пераехала.

Што сталася з хлопчыкам — ніхто не ведае. Ці змог ён выкараскацца, выпаўзці з-пад цяжару дарослага неразумення, наваленага на яго, ці абышлося яго жыццё без спецшколы ці калоніі?

— Мары... Ванна.., а Саша па калідоры бегае (будзе ведаць цяпер зазнайка-выдатнік). Праўда, яго ў кут не паставілі. Настаўніца толькі бровы нахмурыла: «Аляксандр, гэта яшчэ што такое?..» Затое Шкрадаў з кута не выходзіў днямі. Ён ужо не верыць у літасць да паўшых і пасля кожнага званка не падыходзіць, як раней, да настаўніцы і не пытаецца: «А мяне ў кут?» Лепей бы дзесяць «двоек», чым цэлымі днямі стаяць! Па чатыры тадзіны на нагах. Але мяне гэта, дзякуй богу, не датычыла. Я пісала вершы ў «акцябрацкую» газету пад назвай «Калючка». Афіцыйны орган даносу і маральнага тэрору:

Звонок на урок уже дали,
Но школьника три опоздали.
Стоят они горько и плачут...

Канешне, зразумела, стаяць, бо тым, хто спазніўся, садзіцца не дазвалялася, стой да канца. Плачуць — таксама праўда. Бо хоць ты залíся — нічога не выплачаш.

— Мары... Ванна, а Косця паварочваецца.

— А ты яго стукні па галаве чым-небудзь... Так, толькі мацней трэба было б....

Што ж, як бачыце, парасткі сапраўды далі ўсходы. І нічога не праходзіць у жыцці дарэмна, адгукнецца і зло, якое вы робіце. Быў час раскідваць камяні, прыйдзе час іх збіраць.

Фота Ж. АМІСТА.

Святлана ПЛІСКО.

# Жыве талерантная Беларусь!

## Слова ў абарону інтэрнацыяналізму

Па ўсім відаць, час ужо заступіцца за інтэрнацыяналізм, які ганьбуецца апошнім часам з-за тых бясчынстваў, што прыкрываліся ягоным імем. З-за нацыянальнага нігілізму, вырашчанага пад яго маркай, і насаджэння адной культуры і мовы, што выдавалася за той інтэрнацыяналізм. З-за тых людзей, якія, называючы сябе інтэрнацыяналістамі, упарта не хацелі ведаць другую мову, мову народа, сярод якога жывуць, — у адрозненне ад нацыяналістаў, якія звычайна валодаюць дзвюма-трыма мовамі.

Але, каб заступіцца за інтэрнацыяналізм, найперш трэба адмежаваць яго ад гэтых праяў, адмежаваць ад інтэрнігілізму і інтэркасмапалітызму. Сапраўдны інтэрнацыяналізм прадугледжвае не адну моцную і некалькі пахілых, а шмат здаровых нацый, якія з аднолькавай цікавасцю вывучаюць сваіх суседзяў, наладжваюць эканамічныя і культурныя стасункі. І гэта робіцца дзеля ўзаемнай карысці. Глыбокае вывучэнне суседніх моў, духоўных набыткаў дапамагае і больш пільна паглядзець на карані сваёй нацыі, лепш зразумець працэсы, якія ў ёй адбываюцца, іх агульную тэндэнцыю.

Свет, які ідзе да спрашчэння моў і культур, скарачэння іх колькасці, — дэградзіруе. Гэта безумоўна. Нацыя, якая адмяжоўваецца ад суседзяў і ўсяго свету дзеля самазахавання, таксама страчвае свае перспектывы. Вялікія, дарэчы, перспектывы, якія дае нам сённяшні дзень, тэхнічны і навуковы ўзровень міжэтнічнага кантактавання. З гэтым таксама трэба згадзіцца.

Але цяпер Беларусь і беларусы заклапочаны нацыянальным адраджэннем. Многа сіл і эмоцый яно забірае ў нас. Кожны па-рознаму бачыць гэты працэс і яго канчатковы вынік. Але было б крыху сумна, калі б мы схаваліся ў сваёй мове, фальклоры і літаратуры ды уніфікавалі этнічныя асаблівасці розных рэгіёнаў Беларусі... На мой погляд, беларусы павінны стаць шырокай духоўна, талерантнай нацыяй з прысутнай яе характару вялікай цікавасцю да сваіх суседзяў, да іншых народаў свету. Тым больш, што такім быў беларускі народ спрадвечна. На карысць такой думкі гаворыць наша гісторыя, у прыватнасці спецыфіка Вялікага княства Літоўскага, дзяржавы, якая не нівеліравала адметнасці розных этнічных груповак.

Але пакуль што мы не можам пахваліцца трывалымі кантактамі з суседнімі рэспублікамі-дзяржавамі ні на афіцыйным узроўні, ні на ўзроўні так званай народнай дыпламатыі. Усё гэта толькі нараджаецца... Хіба многія з беларусаў БССР, да прыкладу, ведаюць вельмі блізкую нам украінскую мову? Ці больш — польскую? У параўнанні з валоданнем мовай усходняга суседа — адзінкі... Не кажу ўжо пра латышскую ці літоўскую... Не будзем шукаць вінаватых у тым, што так склалася (вунь і родную мову не ўсе яшчэ ведаюць), але прызнаем, што гэта для цывілізаванай нацыі кепска, і паспрабуем крыху змяніць сітуацыю. Складана сказаць, наколькі рэальныя на сённяшні час прапановы ўвесці ў пэўных сумежных рэгіёнах замест манапольнай рускай мовы ў школах суседскія: украінскую, польскую, літоўскую ці латышскую. Гэта на далёкую перспектыву, відаць, калі мы сваёй роднай мовай навучымся карыстацца, як след дзесяцімільённай нацыі.

А вось пра падрыхтоўку беларускіх спецыялістаў па суседніх народах, іх мовах і культурах варта думаць ужо цяпер.

Нас аб'ядноўвае значна больш, чым мы ўяўляем. Адна з такіх з'яў рэчаіснасці — нашы сумежжы з гэтымі рэспублікамі. Сумежжа ў маім разуменні — гэта феномен узаемапранікнення, узаемаўплыву розных моў, культур, веравызнанняў, у цэлым — розных этнасаў, які выводзіць кожнае асобнае нацыянальнае багацце на значна вышэйшы ўзровень.

Беларусь «апяразана» сумежжамі з усіх бакоў: з латышска-літоўскага (Віленшчына, Латгалія), з расейскага (Смаленшчына, Браншчына), з украінскага (Чарнігаўшчына, Палессе) і з польскага (Гарадзеншчына, Беласточчына). Час ад часу гэтыя тэрыторыі называюць спрэчнымі. Але гэта палітыкі. У народзе з-за іх мала спрачаліся, былі яны, хутчэй за ўсё, генератарамі талерантнасці і ўзаемаразумення. Менавіта сумежжы Беларусі далі свету паэта Міцкевіча, кампазітара Агінскага, род пісьменніка Дастаеўскага... Ды і не пералічыш. Сумежжы — гэта феномен, які трэба выкарыстоўваць ва ўзаемным збліжэнні беларусаў як сталай нацыі з іншымі нацыямі.

**Жыве талерантная Беларусь!**

**Валер КАЛІНОЎСКІ,**
**вядучы рубрыкі «Сумежжа».**
Тэл. 32-24-96.

Капішча



**ЛАТЫШСКІ НАЦЫЯНАЛЬНЫ ПАНТЭОН:**

**ДЗІЕЎС — Бог, адзіны ў трох іпастасях: духоўнай, матэрыяльнай і ўладара лёсу.**

**МААРА — Багіня матэрыяльнага дабрабыту.**

**ЛАЙМА — Багіня лёсу.**

*Дыеўтуры-Богатрымальнікі:*

# З Богам без пасрэднікаў

**Ідэі, якія вылучае гэтая арганізацыя, магчыма, з часам будуць вызначальнымі ў рэлігійна-духоўным жыцці латышскага грамадства. Многім і многім цяпер імпануе тая набліжанасць да прыроды, этнічных каранёў, дахрысціянскіх традыцый, якую прапагандуюць дыеўтуры (што ў перакладзе азначае Богатрымальнікі). Тым больш, што гэта вельмі неабходна для народа ў час яго адраджэння. Наш субяседнік—старшыня Рады старэйшых латвійскай абшчыны дыеўтураў гісторык Ольгертс Аунс.**

**— Спадар Ольгертс, скажыце, калі з'явіўся ваш рух?**

— У дваццатыя гады гэтага стагоддзя перад маладой латышскай інтэлігенцыяй паўстала важнае пытанне: якой павінна быць наша нацыянальная рэлігія? Прапаноў было шмат, некаторыя хацелі нават браць нейкія абрады, тэзісы вучэнняў з усіх рэлігій і рабіць на гэтай аснове новую сістэму вераванняў. Але канчаткова большасць прыняла пазіцыю Эрнеста Брастыньша, які прапанаваў шукаць нацыянальную рэлігію ў рэштках латышскага паганства (язычніцтва), народных паданнях, дайнах (песнях). На аснове гэтых дайнаў, якіх толькі Крышанс Баронас сабраў 218 тысяч (8 тамоў), і былі рэканструяваны латышскія дахрысціянскія веравучэнні і абрады. Зараз дайнаў запісана больш як мільён... Ёсць, канешне, сумненні, наколькі супадаюць нашы сённяшнія ўяўленні пра паганства, з тым, як гэта было нават 2—3 стагоддзі таму назад, але аснова ўсё ж адна.

**— Э. Брастыньш, К. Баронас і іншыя тады палічылі, што хрысціянства (лютэранства, каталіцтва) не можа выконваць функцыі нацыянальнай рэлігіі?**

— Гістарычна склалася так, што першым да нас прыйшло праваслаўе, але яно было вельмі слабым. З XIII стагоддзя сярод ліваў пачалі пашыраць сваю веру каталіцкія місіянеры. Але і іх нашы продкі прымалі з недаверам. Тады хрысціянства пачалі ўкараняць сілай мяча і агню, і наш народ доўга супраціўляўся, стагоддзямі тайна хадзіў у свае храмы, не пакідаў звычаяў продкаў, а царкву наведваў фармальна... Відавочна, што хрысціянскі дух не можа быць для латышоў нацыянальным, у ім фальклор і гісторыя Палесціны, яўрэйскага народа. У нас жа ёсць свая гісторыя.

**— А калі ў Латвіі патухлі апошнія паганскія вогнішчы?**

— Большасць капішчаў знішчылі яшчэ немцы ў XIII стагоддзі. Але ў тайных месцах ля святых дубоў і ліп нашы продкі маліліся сваім багам. Было гэта яшчэ ў XVIII стагоддзі.

**— Вернемся, аднак, у XX стагоддзе. Ці былі вераванні дыеўтураў да 1940 года афіцыйна прызнанай рэлігіяй?**

— Так, наша рэлігія ў той час была дазволена, узаконена як лютэранская ці каталіцкая. Але лютэране змагаліся супраць уплыву дыеўтураў. Фактычна ж значэнне нашага руху не абмяжоўвалася рэлігійным уплывам, яно ахоплівала ўсю традыцыйную культуру народа.

**— А ў якім становішчы аказаліся дыеўтуры пасля 1940 года?**

— Калі прыйшлі бальшавікі, то наш рух забаранілі. Э. Брастыньша схапілі і саслалі ў Расею, дзе ў 1941 ці 1942 годзе ён памёр. Цэлы год ніякія абрады мы не маглі выконваць. Пры немцах дыеўтуры таксама не мелі афіцыйнага дазволу на сваю дзейнасць, але збіраліся па хатах, чыталі кніжкі, спявалі дайны...

**— А пасля 1945-га года?..**

— Пасля вайны і амаль што да гэтага часу небяспечна было нават назваць сябе дыеўтурам. Каралі строга. У час кіраўніцтва Б. Пуга, да прыкладу, улады нават вобыскі зрабілі ва ўсіх, хто цікавіўся нашым рухам, канфіскоўвалі кнігі. Але ўсё роўна тыя дыеўтуры, якія сталі імі ў 20—30-я гады, падпольна збіраліся, асабліва ў святы. А на дзень Яніса (Купалле, па-вашаму) сыходзіўся ўвесь народ, святкаваў, спяваў песні, і мы былі разам з усімі. Тады камуністы ўжо нічога не маглі зрабіць...

**— І да якога часу дыеўтуры былі загнаны ў падполле?**

— Зноў мы пачалі свабодна збірацца ў 1988 годзе, а афіцыйна зарэгістраваліся, прынялі статут толькі год назад. Цяпер у нас 150 зарэгістраваных членаў абшчыны і досыць многа проста спачуваючых і цікаўных. Ёсць тры, так бы мовіць, пярвічныя арганізацыі: дзве ў Рызе і адна ў Талава, ствараюцца абшчыны ў Курземе і Земгале...

**— А наколькі змяніліся адносіны хрысціян да «паганцаў» у параўнанні з сярэднявечнымі?**

— Ёсць розныя пастары... Кіраўнік жа лютэранскай царквы Латвіі ўспрымае нас нармальна, у нечым нават падтрымлівае. Ёсць святарнікі, якія настроены актыўна супраць... Наша ж пазіцыя такая: нікому не трэба ні з кім змагацца, трэба дружна жыць...

**— Якія абрады вы аднавілі і ўвогуле ў чым спецыфіка вашай веры?**

— Мы рэстаўрыравалі найперш каляндарныя абрады і святы: дзень Яніса, Лелдзіенас (Вялікдзень), іншыя. Шукаем месцы, якія раней былі капішчамі, пакланяемся ім. Многае даследуем з фальклору, археалогіі, гісторыі. Спецыфіка ж язычніцкіх вераванняў, відаць, у іх адпрыроднасці, экалагічнасці. Чалавек павінен жыць у раўнавазе з прыродай. У гэтым філасофская аснова нашага вучэння. Этычная аснова — неабходнасць чалавеку рабіць дабро іншым людзям. І яшчэ: наш Бог дапамагае толькі тым, хто сам сабе дапамагае — мы прапаведуем актыўнасць у адрозненне ад тых жа хрысціян. У нас няма кліра. Рытуалы можа выконваць любы добры і сумленны чалавек. Нельга, каб адзін святарнік меў права на сувязь з Богам, а іншыя — не, мы звяртаемся да Бога без пасрэднікаў.

Інтэрв'ю правёў
**В. КУЛІК.**

Дайджэст-ПРЭС



Прэзідыум Вільнюскага гарсавета вырашыў назваць плошчу ля Дома друку імем Андрэя Сахарава. Тут устаноўлена драўляная скульптура, на месцы якой будзе стаяць помнік акадэміку.

***

У цэнтры Вільнюса засталіся толькі тры вулачкі, назвы якіх трэба мяняць. Яны ўжо амаль зарэзерваваны для асаблівых выпадкаў. Навёўшы парадак у Старым горадзе, улады ўсю ўвагу скіроўваюць на новыя раёны, кварталы індывідуальных дамоў.

**«Рэспубліка», Літва.**

У Латвіі ствараецца клуб маладых фермераў. Паводле слоў Яніса Пастарса, члена арганізацыйнай групы, гэта дасць магчымасць удзельнічаць у якасці назіральнікаў у мерапрыемствах Еўрапейскага клуба маладых фермераў ужо сёлета.

**«Латвіяс Яунатнэ», Латвія.**

## У РЭДАКЦЫЮ ПРЫЙШЛА ЛІСТОЎКА...

**з тэкстам на дзукскай і гальшанскай мовах. Першая — дыялект літоўскай мовы, другая — паўночна-заходні варыянт беларускай (але зафіксаваны лацінскімі літарамі). Яна падалася нам вельмі цікавай, таму прыводзім яе тэкст цалкам, з захаваннем фанетычных асаблівасцей арыгінала.**

### ДА ЎСІХ ГАЛЬШАНСКА, ЛІТОЎСКА, ДЗУКСКА, ВІЧСКА І ПОЛЬСКА ЯЗЫЧНЫХ ДЗУКАЎ, УСІХ ЛЮДЗЕЙ УСХОДНЯЙ ЛІТВЫ

Спулка славянско язычных літвінаў (вічоў літоўскіх) абрашчаіца да усіх людзей Усходней Літвы — патомкаў дзукаў с вялікай просьбай, которую просім выслухаць.

В Усходней Літве, на зямлі дзукаў, на зямлі былога Гальшанскага княжэства жывуць патомкі літвіноў-гальшанцаў — дзукі, каторые гавораць на славянскім гальшанскім (простым) языку, даўнейшым літоўскім дзукскім языку і славянскай вічскай гавэндзя. Троха дзукаў гаворыць на польскім, рускім языках і біларускай мове.

Даўнейшы літоўскі дзукскі язык і маладыя славянскі гальшанскі і вічскі языкі вялікай гістарычнай этнічнай і языковай цэннасці. Гэтыя языкі ест багацтва для літвіноў і славаў. Гэтыя языкі ні хатнія языкі.

Гэтыя нашыя родныя языкі дзукаў цяпер хочаць унічтожыць фанатыкі польскага, літоўскага і біларускаго дзяржаўных языкоў. Яны ні учаць нашых дзяцей на нашых родных языках.

Дарагія людзі! Нам трэба школы на нашых родных языках. Нам патрэбныя дзяржаўныя школы, у каторых у старшых класах каля палавіны навучання ішло на літоўскім дзяржаўным языку і нашыя дзеткі маглі паступаць на усе спіцыяльнасці літоўскіх універсітэтаў.

Дарагія людзі Усходняй Літвы! Просім Вас прілучіца да спулкі славянско язычных літвіноў і арганізованна бараніць нашыя родныя языкі.

**Просім пісаць нам па адрэсам:**

233000, Kaunas, V. Putvinskio 12-3, E. Satkevicius,
232022, Vilnius, Zemynos 43-48, J. R. Krupowicz,
232057, Vilnius, Kalvariju, 276-90, P. Valickas.

**Званіць тэлефонамі: 35-33-41, 75-25-87, 26-56-27, 76-32-58 в Вільні; 22-51-23 — в Ковно.**

**1991.IV.5**

**P.S. «Сумежжа» мяркуе ў адным з выпускаў расказаць пра рух вічоў, дзукаў ды гальшанцаў шырэй.**

**Граніц яго сапраўды не вызначыш, бо заблыталіся яны сярод беларускіх, літоўскіх, польскіх, латышскіх, рускіх і змешаных вёсак на Віленшчыне і ў Латгаліі.**

Грунтоўна!

# БЯСКРАЙНІ ПАЎНОЧНЫ ЗАХАД

**Па-рознаму ацэньваецца мінулае і сучаснае гэтых земляў. Гледзячы карыслівымі вачыма, лёгка перабольшыць свае набыткі і знікчэміць або ўвогуле не заўважыць суседнія. Тым больш зараз, калі прыйшла пара гаспадарам агледзецца ў сваіх, дагэтуль гвалтоўна запакінутых абсягах. Аднак хочацца спадзявацца, што і Віленшчына, і беларуска-латгальскае сумежжа будуць не раз'ядноўваць, а, наадварот, зближаць нашы народы, звязваць іх культурна, духоўна, моўна. Як, дарэчы, гэта і было ў мінулым.**

**Таму ці не лепей было б аб'явіць мараторый на балючыя ацэначныя заявы наконт гэтых і сумежных ім зямель у Беларусі і прымаць пад увагу толькі разважлівую, аргументаваную пазіцыю ды навукова пацверджаную інфармацыю. Такую вось, якую прапануюць чытачам «Чырвонкі» кандыдаты філалагічных навук, старшыя навуковыя супрацоўнікі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР Фёдар Данілавіч Клімчук і Алена Іванаўна Чабярук.**

## НАВУКОВАЯ ДАВЕДКА

**Насуперак сцвярджэнням «ЛіМа» аб тым, што беларускія мовазнаўцы «беспадстаўна і несправядліва адрэзалі ад свайго пазнаваўчага поля арганічную частку беларускамоўнай тэрыторыі — Віленскі край» (глядзі «Літаратуру і мастацтва» за 8 лютага 1991 года, артыкул «Адрэзаны палетак»), адзначым, што беларускія гаворкі Віленшчыны і Латгаліі ўсё-такі вывучаліся. Вядома, нельга гаварыць аб нармальнай працы нашых дыялектолагаў у першы пасляваенны час: беларускамоўны арэал афіцыйна абмяжоўваўся дзяржаўнай граніцай БССР. Акрамя таго, філолагі былі занадта загружаны працай па аднаўленню знішчанай пад час вайны картатэкі гаворак Беларусі.**

**І ўсё ж з 1966 года пачалося спарадычнае, а пасля заключэння ў 1976 годзе дагавора з Літоўскай АН планамернае даследаванне беларускіх гаворак на тэрыторыі Літвы.**

**У 1966 годзе былі вывучаны гаворкі вёсак Старыя Трокі Тракайскага, Стральцы Шальчынінскага, Новыя Мацалі Варэнскага і Ліпнікі Вільнюскага раёнаў. З 1975 года абследаваліся гаворкі вёскі Стракішкі Тракайскага, Відаўцішкі, Грыкені і Судэрва Судэрваўскай апілінкі (сельсавета) і Швэды Авіжэнскай апілінкі Вільнюскага, Лайпушкі і Малькуны Ігналінскага, Гемзы і Тургеляй, Балтоі-Воке, Кудзялянцы, Руднікі, Дэгшні, Ёдупка, Кальнішкі, Каменка Шальчынінскага, Ракаўскія, Талейкі і Чычалі Швянчонскага, Шумск, Канюкай Вільнюскага раёнаў.**

**У 1977 годзе быў абследаваны шэраг беларускіх гаворак у Латвіі — вёсак Баложы, Калькуны, Прэдэ, Скрудалена, Шалкуні, Рагулішкі, Уступі Даўгаўпілскага, Буткуны, Індра, Масішкі, Філіпаўцы, Шнёкаў Краслаўскага, Істра, Пасіене, Мельнікі, Навікі, Мяшкінева, Пелічава, Скрыпчына, Чарняўскія, Шкаўна Лудзенскага раёнаў. У 1980 годзе вывучаліся гаворкі вёсак Дэмене і Медумі Даўгаўпілскага раёна.**

**Даследавалі гаворкі беларускамоўных вёсак Віленшчыны і Латвіі філолагі Ю. Ф. Мацкевіч, Я. М. Рамановіч, І. П. Кавальчук, М. В. Бірыла, А. І. Чабярук, Ф. Д. Клімчук, Э. Грынавецкене, В. Д. Старычонак, А. Відугірыс, Б. Рэйдзане, С. Г. Лобач, Т. В. Бародзіч, А. Брэйдак.**

**Вынікам даследаванняў гэтай групы дыялектолагаў у 60—80-я гады стаў «Слоўнік беларускіх гаворак Паўночна-Заходняй Беларусі і яе пагранічча» ў 5-ці тамах (Мінск, 1979, 1980, 1982, 1984, 1986).**

**На аснове тых даследаванняў, уласных назіранняў мы і напісалі прапануемыя нататкі.**

**Цяпер даследаванне беларускамоўнага насельніцтва Літвы працягваецца. Праведзены навуковыя экспедыцыі па збору матэрыялаў для Лінгвістычнага атласа пагранічча, які мяркуецца скласці. Па лексічнай праграме ў 1989—1990 г. г. абследаваны гаворкі вёскі Ракаўскія Швянчонскага, часткова Малькуны Ігналінскага і Калніешы Краслаўскага раёнаў. Абследаванне правялі С. Г. Лобач, А. І. Чабярук, Н. У. Быкава, Ф. Д. Клімчук, П. А. Міхайлаў, І. Я. Яшкін. Да даследавання падключаюцца новыя людзі, якія будуць працягваць гэтую працу.**

## Гістарычнае фота



**Паводка ў Вільні ў 1931 годзе. Выгляд Кафедральнага сабора.**

**Здымак з газеты «Знад Віліі» (Вільнюс).**

У час экспедыцый звычайна запісваліся не толькі дыялектныя матэрыялы, але, па магчымасці, высвятляліся і іншыя аспекты, у прыватнасці

## МОЎНАЯ І ЭТНІЧНАЯ СІТУАЦЫЯ

Этнамоўная сітуацыя ў гэтым краі наогул складаная, хоць не ўсюды аднолькава. Намі часцей за ўсё даследаваліся тыя вёскі, дзе беларускай гаворкай карыстаюцца прадстаўнікі ўсіх пакаленняў, у тым ліку і дзеці. Аднак некаторыя мікрарэгіёны ў Віленскім краі і ў Латгаліі (Паўднёва-Усходняя Латвія) характарызуюцца своеасаблівасцю. Вось пра іх мы і раскажам больш падрабязна.

Вёска Сянейі-Тракай (Старыя Трокі) Тракайскага раёна. Прадстаўнікі старэйшага пакалення гавораць па-польску і па-беларуску, сярэдняе і малодшае пакаленні карыстаюцца пераважна польскай мовай. У суседняй вёсцы Стракішкес (Стракішкі) прадстаўнікі ўсіх пакаленняў карыстаюцца пераважна мясцовай беларускай гаворкай. У Сянейі-Тракайскай апілінцы ва ўсіх вёсках у той ці іншай ступені бытуе беларуская мова. Часткова захавалася тут і традыцыйная літоўская гаворка.

Вёска Канюкай (Канюхі) Вільнюскага раёна. Сярод прадстаўнікоў старэйшага пакалення адны карыстаюцца пераважна беларускай гаворкай, другія — пераважна польскай.

Вёска Шумскас (Шумск) Вільнюскага раёна. Тут асноўны сродак зносін — беларуская гаворка, але звычайна людзі валодаюць і польскай мовай, а частка жыхароў — традыцыйнай літоўскай гаворкай.

Чычаляй (Чычалі) Швянчонскага раёна — літоўская вёска. У асноўным тут жывуць літоўцы, якія карыстаюцца мясцовай літоўскай гаворкай. Але ў Чычалях большасць жыхароў, акрамя літоўскай мовы, ведае яшчэ беларускую, рускую і польскую. У Чычалях мы запісвалі беларускую мову літоўцаў.

Блізкая да гэтай і сітуацыя ў суседніх літоўскіх вёсках: Акверышке (мясцовы беларускі варыянт назвы Аферышкі), Відуціне, Каркліне (Каралінцы), Дзвілоніс, Шышнішке, Зіболішке, Шылінэ, Скрытулішке (Скрытулішкі). Ропішке, Шутай, Кавальчукай (Кавальчукі), Кульбокішке (Кульбакішкі), Коркліне. У вёсцы Науяс Струнайціс (Новыя Струнойцы), дзе жывуць літоўцы, беларускай мовай валодае частка жыхароў. У вёсцы Сенас Струнайціс (Старыя Струнойцы) пераважаюць палякі. А вось у суседняй з Чычалямі вёсцы Сіманішке (Сыманішкі) жывуць беларусы, гавораць звычайна па-беларуску, літоўскай мовай валодае толькі частка жыхароў, польскай мовай таксама валодаюць не ўсе. Блізкая сітуацыя ў вёсках Варнішке (Варнішкі), Талейкос (Талейкі), Зелянкос (Зялёнкі). А ў вёсцы Даўёцішке (Даўяцішкі) жывуць рускія стараверы і беларусы.

У апісваемым рэгіёне кантакты беларусаў-католікаў з літоўцамі пэўным чынам уплываюць на этнічную самасвядомасць беларусаў. Раней літоўцы беларусаў называлі словам «гудас», а палякаў — «лянкас». Цяпер замест «гудасы» ўсё часцей ужываюць этнонім «беларусы».

Калі ж беларусы-католікі пачынаюць называць сябе палякамі, мясцовыя літоўцы, як яны самі расказвалі, ім нярэдка пярэчаць: «Вы не палякі, а беларусы, бо мы вас звалі гудасамі, а не лянкас». У вёсцы Ракаўскай (Ракаўскія) Швянчонскага раёна жыхары гавораць па-беларуску і па-польску, частка гаворыць яшчэ і па-літоўску. Мы даследавалі гаворку в. Ракаўскія ў 1976 г., затым у 1989 і 1990 гг. На працягу апошніх пятнаццаці гадоў тут змяніўся ўхіл на карысць беларускай мовы і часткова, літоўскай. Калі раней мы сустракаліся з мясцовымі людзьмі, яны звычайна пачыналі гутарку па-польску. Цяпер жа мы чулі тут пераважна беларускую мову.

Складаная моўная сітуацыя ў Судзярваўскай (Судэрваўскай) апілінцы Вільнюскага раёна. Апілінка знаходзіцца на паўночны захад ад Вільнюса. У склад яе ўваходзіць 62 вёскі. Па характару моўнай сітуацыі іх можна падзяліць на некалькі груп.

**Першая група — старэйшае пакаленне гаворыць па-беларуску і па-польску, людзі сярэдняга і малодшага ўзростаў — пераважна па-польску: Грыкеняй (Грыкені)—даюцца афіцыйныя і мясцовыя назвы вёсак), Відаўцішкяй (Відаўцішкі), Ужуежарай (Заазерцы), Брынкішкяй (Брынкішкі), Буйнішкяй (Буйноўка), Шведай (Швэды), Ужулаўкяй (Запольцы), Петраняй (Петранцы), Пуцішкяй (Пуцінішкі), Рэша 2-я (Рэша), Мазурышкяй (Мазурышкі), Паканяй (Пàканцы), Буйнішкяй-2 (Буйнаўка), Бубай (Бубы), Вяржышкес (Бжазовішкі), Варнакаляй (Варнаколе), Расціненай (Расцінены), Мікалішкяй (Міхалішкі), Міколіне (Міхайлова), Домбрышкяй (Дамбровіцішкі), Клевінай (Клевіны), Жэмагаляй (Жэмагулі), Пурвішкяй-1 (Пурвішкі-1), Гелажай (Гелажы), Пурвішкяй-2 (Пурвішкі-2), Шаканішкяй (Шаконішкі).**

**Другая група вёсак адрозніваецца ад папярэдняй тым, што тут мясцовая беларуская гаворка ўжываецца шырэй — ёю карыстаюцца і людзі малодшых узростаў. Да гэтай групы адносяцца вёскі: Шыленай (Шыланы), Чэконішкяй (Чэконішкі), Каплічнінкяй (Каплічнікі), Вайвадзішкяй (Вайвадзішкі), Лейчай (Лойцы), Пеліканяй (Пеліканы), Праполай (Праполы), Вербінішкяй (Вербінішкі), Саманіке (Сыманіца), Свілішкяй (Свілішкі), Сайджай (Сойдзі), Науя Рава (Нова Рапа), Меджакалніс (Медзяколя), Аўгустай (Аўгусты), Лапанчышкяй (Лапоўцішкі), Багданішкяй (Багданішкі), Пусталаўкяй (Пусталуўка), Мядведзішкяй (Мядведзішкі), Папішкяй (Папішкі).**

**У наступнай групе вёсак пераважае польская мова: Лаўрынішкяй (Лаўрынішкі), Забелінес (Ізабеліна), Вабаляй (Вобалі), Сідзераняй (Сідоранцы), Подварай (Падворанцы), Вайгелішкяй (Вайгелішкі), Гвалтай (Гвалты), Юркішкяй (Юркішкі), Антакальцай (Антакольцы), Пілімай (Пілімы).**

**Некаторыя вёскі можна назваць польска-літоўскімі: Касмішкяй (Касмоўшчызна), Легацішкяй (Легацішкі), Шурманяй (Сюрманцы), Эльнякампес (Эльнокумпе).**

**У вёсцы Мінцішкяй (Мінцішкі), дзе гавораць па-польску і па-беларуску (старэйшае пакаленне), жывуць таксама стараверы, якія гавораць па-руску. У вёсцы Лаўкяляй (Ляўкялі) жывуць стараверы.**

**У вёсцы Судзярве (Судэрва), якая з'яўляецца цэнтрам апілінкі, размаўляюць па-польску і па-беларуску (старэйшае пакаленне), часткова і на традыцыйнай літоўскай гаворцы. Літоўцы жывуць і ў іншых вёсках апілінкі, але працэнт іх невялікі.**

**На паўночны захад ад Судэрваўскай апілінкі знаходзяцца Майшагальская і Дукштаўская апілінкі Вільнюскага раёна. У іх ужо пераважае польская мова, хоць часткова захаваліся традыцыйныя літоўскія гаворкі.**

Характарызуюцца пэўнай моўнай спецыфікай розныя рэгіёны

## ПАЎДНЁВА-ЎСХОДНЯЙ ЛАТВІІ

На аўтобуснай станцыі ў раённым цэнтры Краслава нярэдка можна пачуць звычайную беларускую гаворку. Людзі ёю размаўляюць, не саромеючыся.

**(Заканчэнне будзе).**







# «ВУЧЫЦЦА НЕ СКЛАДАНА, СКЛАДАНА ЖЫЦЬ...»

**Знаёмцеся — Сандэй Адэладжа. Студэнт факультэта журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна.**

**На той час, калі Сандэй пакідаў родную Нігерыю, ён ужо ведаў, што паспяхова здаў экзамены ў адзін з універсітэтаў па спецыяльнасці драматургія. Але (у якасці ўзнагароды) паехаў вучыцца ў СССР.**

**— Сандэй, першае нецярплівае пытанне да цябе адразу па сутнасці: як ты трапіў на вучобу у Савецкі Саюз?**

— О! Вельмі проста. Як кожны жадаючы вучыцца за мяжой, я пісаў заяву. І ў гэтай заяве ў графе «Краіна» я напісаў: «Англія. ЗША. СССР». Жадаючым паехаць у СССР быў я адзін, а месцаў для вучобы ў Англіі і ЗША ўжо не было...

**— Цябе засмуціў такі паварот?**

— Не, тады я не засмучаўся. Я меркаваў, што паколькі Савецкі Саюз знаходзіцца ў Еўропе, значыць, гэта такая ж краіна, як Англія ці Францыя. А можа і лепш, бо СССР — звышдзяржава. Тады я не ведаў, што моц гэтай звышдзяржавы толькі ў зброі...

**— Сандэй, каб нам лепей было зразумець, што рабілася з табой у тыя хвіліны, раскажы, калі ласка, больш падрабязна пра свой першы дзень у звышдзяржаве.**

— Гэта было 12 верасня 1986 года. Я прыляцеў на самалёце ў Маскву. Потым мы паехалі па горадзе. Праз акно аўтобуса я бачыў толькі вялікія, шматпавярховыя будынкі. Іх было вельмі многа. Так многа, што я падумаў: гэта, сапраўды, вельмі развітая краіна, тут шмат офісаў, як у Нью-Йорку. (Справа ў тым, што ў такіх гмахах у нас размешчаны толькі адміністрацыйныя ўстановы). Але, як высветлілася, у іх жывуць людзі...

У Нігерыі не любяць вышынных будынкаў, і людзі імкнуцца пабудаваць свой прыватны домік.

Па-другое, мяне здзівілі аўтамабілі. За акном я бачыў толькі машыны маркі «Волга» і «Лада». У Нігерыі гэтыя машыны апошні раз выкарыстоўваліся ў 70-х гадах. І зусім нядаўна я распазнаў, што сярод савецкіх машын ёсць «Запарожац» і «Масквіч»... Бо раней усе машыны былі для мяне «Лада» — так яны падобны адна на адну.

І я падумаў, чаму еўрапейская краіна да гэтага часу ездзіць на такіх машынах?... А ўвечары, калі мы гулялі па горадзе, усе людзі на вуліцах здаліся мне незразумела сумнымі. Мяне ўразілі іх непрыгожыя і старамодныя вопратка і абутак. Мне стала холадна... І я пайшоў спаць. На другі дзень я зразумеў, што ў гэтай краіне «воскресенье» — звычайны дзень, такі ж, як субота ці панядзелак. У нас «воскресенье» — гэта свята. У гэты дзень чалавек не павінен сядзець дома. Прынята хадзіць у царкву, у малітвеныя дамы ці гуляць у парку.

А калі я паспрабаваў знайсці веруючых, мне растлумачылі, што гэта дарэмная справа: тут атэізм. І я пачаў маліцца, каб не згубіць сваю веру ў Савецкім Саюзе...

На трэці дзень я ўжо вырашыў, што еду дадому...

**— Што менавіта падштурхнула цябе да гэтага рашэння?**

— «Воскресенье». Пасля «воскресенья» я зразумеў, што ў гэтай краіне сухое жыццё — жыццё без Бога. Гэта не Амерыка і не Еўропа.

**— Ну і як, можна прывыкнуць да такога жыцця ці не?**

— Не. Шмат што мяне ўжо не здзіўляе. Але звыкнуцца з гэтым не магу...

**— А тут усё новыя «цуды»: візіткі, карткі...**

— Так. З-за гэтага я амаль перастаў хадзіць па магазінах. Толькі зрэдку па самае неабходнае заходжу ў прадуктовы. Але які сэнс? Часам там і па картачках нічога не купіш.

Дома мы ў асноўным снедалі рысам. У Савецкім Саюзе я маю магчымасць набыць па талонах толькі паўкілаграма рысу. (Уявіце сабе, вам дазволена за месяц скарыстаць толькі паўкілаграма бульбы. — **В. У.**).

**— Калі ты не ходзіш па магазінах, дзе ж ты апранаешся?**

— Вядома, дома. Але было б значна лягчэй купляць рэчы тут. На таможні за правоз грузу звыш 20 кг трэба плаціць дадатковую суму валютай. А, па-другое, каб мае бацькі не пакутавалі, я ім ніколі не расказваю пра сваё жыццё ў СССР. Калі ж прыязджаю дадому, купляю і вязу з сабой усё, што толькі магчыма, яны здзіўляюцца і пытаюцца: «Сандэй! Навошта?! Навошта так многа везці з сабою? Няўжо нельга купіць усе гэтыя рэчы там?...»

**— Сандэй, а можа вучоба ў СССР усё ж такі мае хоць адзін «плюс»?**

— Канешне. Адзін... але вялікі. Дома я б не здолеў столькі часу прысвячаць вучобе. Там жыццё поўніцца спакусамі. Мне вельмі шкада, што ты нават уявіць сябе не можаш, якім цікавым бывае жыццё!

А тут у мяне адзін маршрут: інтэрнат — факультэт. Увечары — наадварот. Вучыцца не складана, складана жыць...

**— Але ты ўжо пражыў у гэтай краіне амаль 5 гадоў. Што табе дапамагала?**

— Вера у Бога. Вера давала мне надзею. І я ведаў — Бог жадае, каб я застаўся. Ён не дасць мне страціць розум (як здарылася з некаторымі іншымі). Калі мне было складана, я маліўся, і Бог адказваў на мае просьбы і малітвы.

**— Як? Ты прыходзіў у магазін і бачыў там прадукты, якія табе патрэбны?**

— І гэта таксама. Але галоўнае — Бог замяніў мне чалавечыя адносіны. З Яго дапамогай у мяне з'явіліся сябры — я пазнаёміўся з веруючымі.

Тут у СССР Бог стаў для мяне яшчэ больш рэальным. Я зразумеў, як малітва, проста малітва можа зрабіць чалавека шчаслівым.

Але мне здаецца, што не адна краіна свету не вызначаецца такім бязвер'ем, як Савецкі Саюз. Дух ёсць у кожнага чалавека, але толькі ў чалавека, які верыць, ён жыве. Ён адроджаны. І для гэтага чалавека жыццё бачыцца зусім паіншаму....

У СССР вельмі мала такіх людзей, якія жывуць... мала веруючых. Гэта трагедыя, гэта згублены народ, які не атрымаў новага жыцця... І таму мы з сябрамі часта молімся за вашу краіну.

**— Сандэй, уяві: ты прыехаў дадому. Што ты зробіш у першую чаргу? І, наогул, уяўляецца такое?**

— Дадому — гэта нармальны стан. Так павінна быць. Гэта зараз...

А калі я прыеду, то сяду і напішу адразу 10 заяў у розныя рэдакцыі з просьбай узяць мяне на работу.

**— А цябе не палохае, што з савецкім дыпломам ты застанешся без працы? Твае таварышы вернуцца з Англіі і ЗША...**

— Ведаю. Але не баюся. Як і кожны іншы чалавек, я думаю, што гэта буду не я.

**— Дзякуй табе, Сандэй. І, дай Бог, каб гэта сапраўды быў не ты... і ніхто іншы.**

**В. УЛЕВІЧ,**
**студэнтка факультэта журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна.**





*Замежны дэтэктыў* — **Джон Дзіксан КАР.**



# Госць у доме

**(Працяг. Пачатак у № 18.).**

— Не ўпэўнены ў гэтым, — сур'ёзна заявіў ён і ўсміхнуўся. — У маёй прафесіі той, хто рызыкуе, можа хутка апынуцца на мялі. — Ён агледзеў пакой. — Прынамсі, я не рызыкнуў бы павесіць тры карціны агульным коштам у 50 000 фунтаў у пакоі на першым паверсе, з французскімі вокнамі на тэрасу і без сігналізацыі. — У яго голасе прагучалі трывожныя ноткі. — Божухна! Варта ўзломшчыку...

— Чорт! — нечакана сказаў Хендэрсан.

Нават Хант здрыгануўся.

Пасля партыі ў покер усе чамусьці адчувалі сябе няўтульна. Хант узяў з сярэбранай вазы на буфеце яблык і пачаў чысціць яго. Вострае і тонкае лязо фруктовага нажа паблісквала пры святле бра.

— Я з-за вас ледзь палец сабе не адхапіў, — сказаў ён, паклаўшы нож. — Што з вамі?

— Пікавы туз, — вяла адказаў Хендэрсан. — За пяць мінут ён ужо другі раз выпадае.

Артур Ролф зрабіў выгляд, што не зразумеў.

— Ну і што?

— Здаецца, нашаму сябру не даюць спакою прадчуванні, — Хант быў паранейшаму вясёлы. — Вы ўсё вызначаеце людскія характары або толькі варожыце?

Хендэрсан вагаўся. Ён паглядзеў на Ханта, потым перавёў погляд на сцяну над буфетам, дзе на яго маўкліва глядзела чырванаскурая, як індыянка, «Старая жанчына ў чапцы» Рэмбранта. Потым Хендэрсан паглядзеў на французскія вокны, якія выходзілі на тэрасу.

— Зразумела, гэта не мая справа, — паціснуў плячыма Хендэрсан. — Ваш дом, ваша калекцыя, ваша адказнасць. Але гэты Катлер: што вы пра яго ведаеце?

Маркуса Ханта гэта пазабавіла.

— Катлер? Ён сябар маёй пляменніцы. Хэрыет пазнаёмілася з ім у Лондане і папрасіла мяне запрасіць сюды. Лухта! Катлер не ўзломшчык. А пра што вы думаеце?

— Цішэй! — сказаў Ролф, падняўшы руку.

Шум, які даносіўся да іх з тэрасы, не паўтарыўся, паколькі ўстрывожаная і збянтэжаная дзяўчына хутка прабегла да далёкага канца і аблакацілася аб балюстраду.

Лью Катлер завагаўся, перш чым накіравацца за ёй. Месяц ярка асвятляў тэрасу, узор на каменных урнах. Хэрыет Дэйвіс была ў белай сукенцы з доўгімі лёгкімі спадніцамі, якія ўзнімаліся пры бегу.

Адтуль яна кіўнула яму.

Яна паўсядзела, напалову ўпіралася на парэнчы. Пальцы сціскалі камень. Месячнае святло яшчэ мацней падкрэслівала цёмныя валасы і такія ж вочы. Катлер бачыў, як узнімаліся яе грудзі, бачыў нават цень, кінуты вейкамі.

— Гэта ж няпраўда, — сказала яна.

— Што?

— Тое, што сказаў дзядзька Маркус. Вы ж чулі. — Пальцы Хэрыет мацней сціснулі парэнчы балюстрады. — Што я ведаю вас. І запрасіла вас сюды. А я ніколі не бачыла вас да гэтага уікэнда. Або дзядзька Маркус звар'яцеў, або... Вы мне адкажаце на адно пытанне?

— Калі змагу.

— Цудоўна. Вы выпадкова не махляр?

Яна прамовіла гэта проста і прама, быццам пыталася ў яго, доктар ён або адвакат. Лью Катлер быў дастаткова разумны, каб не рассмяяцца . Хэрыет была ў такім настроі, калі для любой жанчыны смех — соль на свежую рану; яна абавязкова дала б яму аплявуху.

— Па праўдзе кажучы, — сказаў ён, — не. А чаму вы спыталі?

— У гэтым доме, — сказала Хэрыет, гледзячы на месяц, — была зроблена сігналізацыя. Варта толькі дакрануцца да акна, і ўсё навокал званіла, як пры пажары. Ён распарадзіўся зняць сігналізацыю на мінулым тыдні. На мінулым тыдні. — Яна адняла рукі з балюстрады і сашчапіла іх. — Карціны віселі наверсе, у зачыненым пакоі побач са спальняй. Ён распарадзіўся, каб іх перанеслі ўніз на мінулым тыдні. Быццам бы ён ХАЦЕЎ, каб яго дом абрабавалі.

Катлер зразумеў, што яму трэба быць вельмі асцярожным.

— Магчыма, ён і хоча гэтага. Напрыклад, уявім, адзін з яго вядомых Рэмбрантаў аказаўся падробкай. Тады лепш не паказваць яго дасведчаным сябрам.

Дзяўчына пакруціла галавой.

— Не, — сказала яна. — Усе карціны сапраўдныя. Бачыце, я і пра гэта падумала.

Цяпер можна біць з размаху. Для Лью Катлера, з яго нявінным выглядам, праблемы гэта не ўяўляла. Ён дастаў партсігар і перавярнуў яго.

— Паслухайце, міс Дэйвіс, вам, напэўна, не спадабаецца тое, што я скажу, але былі выпадкі, калі людзі вельмі хацелі, каб іх маёмасць «укралі». Калі карціна застрахавана на суму, большую за яе кошт, а потым аднаго разу ноччу таямніча «выкрадзена»...

— Гэта зусім верагодна, — гэтак жа спакойна адказала Хэрыет, — але справа ў тым, што ні адна карціна не застрахавана.

Металічны партсігар праслізнуў паміж пальцаў Катлера і ўпаў на камяні. Цыгарэты рассыпаліся, і гэтак жа рассыпаліся і перамяшаліся яго тэорыі. Калі ён нахіліўся, каб падабраць яго, над Уілдам прагучаў бой царкоўнага гадзінніка. Палова на дванаццатую.

— Вы ўпэўнены?

— Абсалютна ўпэўнена. Ён не застрахаваў ні адну са сваіх карцін нават на пені. Ён гаворыць, гэта пустая трата грошай.

— Але...

— О, я разумею! І я не ведаю, чаму я вам усё гэта гавару. Вы ж зусім незнаёмы чалавек, ці не так? — Яна склала рукі і падняла плечы, быццам ёй стала холадна. Дрыжачыя павекі сведчылі аб няпэўнасці, страху, нервознасці. — Але дзядзька Маркус таксама незнаёмец. Ведаеце, што я думаю? Мне здаецца, ён звар'яцеў.

— Наўрад ці так дрэнна абстаяць справы, а?

— Давайце, — нечакана накінулася на яго дзяўчына, — ГАВАРЫЦЕ. Гэта лёгка. Вы ж не бачылі, як яго вочы звужаюцца, і дабрадушны выраз вясковага сквайра знікае з твару. Ён не фігляр, ненавідзіць фігляраў і робіць усё, каб выкрыць іх. Але калі ён не звар'яцеў, што ж тады задумаў?

Яны даведаліся пра гэта крыху больш як праз тры гадзіны.

Узломшчык дачакаўся паловы на трэцюю раніцы. Спачатку ён выкурыў некалькі цыгарэт у кустах пад тэрасай за домам. Калі да яго данёсся бой гадзінніка, ён пачакаў яшчэ некалькі мінут і праслізнуў па прыступках да французскіх вокан сталоўкі.

Падзьмуў халаднаваты вецер, адчуўшы зыход ночы, час самазабойстваў і кашмараў. Ён нягучна прашамацеў па траве і лісцях дрэў. Калі мужчына азірнуўся, бляклае месячнае святло асвятляла твар, прыкрыты чорнай паўмаскай і зашмальцаванай кепкай.

Ён пачаў працаваць над сярэднім акном. Наклеіў дзве кароткія палоскі ліпкай стужкі на шкло якраз побач са шпінгалетам. Потым выразаў шкларэзам маленькі паўкруг паміж палоскамі.

Бясшумна не атрымалася: шкларэз правішчаў як бормашына ў зубе, і ўзломшчык заціх, прыслухоўваючыся.

Ціха. Сабака не забрахаў.

Стужка ўтрымлівала шкло, каб яно не ўпала і не разбілася. Прасунуў у адтуліну руку ў пальчатцы, адкрыў шпінгалет.

Ён дакладна ведаў, чаго хацеў. Паклаўшы сумачку з інструментамі ў кішэню, дастаў электрычны ліхтарык. Прамень слізгануў па буфеце — блiснула серабро, з'явілася ваза з фруктамі і маленькі нож, які тырчэў з яблыка, быццам з плоці; потым упёрся ў вядзьмарчын твар «Старой жанчыны ў чапцы».

Карціна была невялікая, і ўзломшчык лёгка зняў яе са сцяны. Падчапіў і падняў раму са шклом. Хоць ён і пастараўся згарнуць палатно вельмі акуратна, слабая фарба трэснула, і на вядзьмарчыным твары з'явіліся маленькія зорачкі. Узломшчык быў так захоплены работай, што нават не заўважыў прысутнасці ў пакоі другога чалавека.

Гэта быў неасцярожны ўзломшчык: шостае пачуццё не папярэдзіла яго аб небяспецы.

Наверсе, на трэцім паверсе дома, Лью Катлера разбудзіў прыглушаны стук, быццам пасыпаліся на падлогу металічныя прадметы.

Катлер выскачыў з ложка і сунуў ногі ў пантофлі. У кішэні халата ўжо ляжаў напагатове маленькі ліхтарык.

Шум, здаецца, не разбудзіў больш нікога. Прадбачачы магчымасці, Лью хуценька выслізнуў са спальні. Ніколі яшчэ так хутка не спускаўся па лесвіцы. Дываны заглушалі крокі. У холе адчуў скразняк, дзесьці было адчынена акно або дзверы. Ён адразу накіраваўся ў сталовую.

Ён спазніўся.

Правёўшы навокал тонкім промнем, Катлер уключыў святло. Узломшчык нерухома ляжаў ля буфета і, мяркуючы па колькасці крыві на яго світэры і штанах, больш ніколі не паднімецца.

— Вось яно што,— прамовіў Катлер.

Сярэбраны сервіз з чайнікам зваліўся з буфета, і ваза для фруктаў — таксама. Мёртвы ляжаў на спіне пасярод асколкаў, рассыпаных апельсінаў, яблыкаў і расціснутай гронкі вінаграду. Зашмальцаваная кепка і паўмаска прыкрывалі твар узломшчыка, рукі ў пальчатках раскінуты. Пустая рама карціны і выразанае палатно былі падмяты яго целам.

— Што гэта?— голас прагучаў каля самага вуха Катлера.

Калі б у яго бок уткнуўся фруктовы нож, ён не спалохаўся б так. Катлер не чуў, як падышла Хэрыет Дэйвіс. Яна стаяла якраз за ім, загарнуўшыся ў японскае кімано, раскінуўшы па плячах цёмныя валасы. Але, калі ён растлумачыў, што адбылося, яна не стала ўваходзіць у сталовую,— адступіла назад, матаючы галавой, як вулічны хлопчык, гатовы да бойкі.

— Вам лепш разбудзіць дзядзьку,— хутка сказаў Катлер, стараючыся надаць голасу ўпэўненасць. — І слуг. Я павінен пазваніць.— Ён глянуў ёй прама ў вочы.— Так, вы маеце рацыю. Так, вы маеце рацыю. Я думаю, вы ўжо здагадаліся. Я з паліцыі.

Яна кіўнула.

— Так. Я здагадалася. Ваша прозвішча і сапраўды Катлер?

— Я сяржант з аддзела расследавання злачынстваў. Маё прозвішча сапраўды Катлер. Мяне сюды прывёз ваш дзядзька.

— Навошта?

— Я не ведаю. Ён не сказаў мне.

Нават перапалоханая дзяўчына разумела вельмі хутка.

— Але хіба яны паслалі б вас, калі ён не сказаў, навошта? Яму проста давялося б даць тлумачэнні, хіба не так?

Катлер прапусціў гэта міма вушэй.

— Я павінен пабачыць вашага дзядзьку. Калі ласка, падніміцеся і разбудзіце яго.

— Не магу,—сказала Хэрыет. — Дзядзькі Маркуса ў пакоі няма.

— Няма?

— Я пастукала, калі спускалася. Пакой пусты.

Катлер паспяшаўся наверх, пераскокваючы цераз прыступкі.

Спальня Маркуса была пустой. Касцюм, які ён надзеў к абеду, вісеў на крэсле, акуратна складзеная кашуля ляжала на сядзенні, зверху яе — каўнер і гальштук. На століку гучна цікаў гадзіннік. Там жа ляжалі грошы і ключы. Але Хант, здаецца, не клаўся—ложак быў не прымяты.

Пакуль Лью Катлер стаяў і слухаў настойлівае ціканне гадзінніка, у яго зарадзілася падазрэнне, якое здалося яму фантастычным.

Ён спусціўся ўніз і па дарозе сустрэў Артура Ролфа, які выйшаў са спальні. Поўнае цела гандляра творамі мастацтва было загорнута ў фланелевы халат. Ён стаў перад Катлерам і не рухаўся з месца.

— Так,— сказаў Катлер,— можаце і не пытацца. Узломшчык.

— Гэта я зразумеў,— спакойна сказаў Ролф.— Ён што-небудзь украў?

— Не. Яго забілі.

Рука Ролфа палезла за пазуху халата, быццам бы там балела.

— Забілі? Вы маеце на ўвазе ЎЗЛОМШЧЫКА забілі?

— Так.

— Але навошта? Га, яго забіў саўдзельнік. А хто ўзломшчык?

— Пра гэта,— сказаў Лью Катлер,— я і збіраюся даведацца.

У холе ён знайшоў Хэрыет Дэйвіс, яна стаяла ў дзвярах сталовай і пільна глядзела на труп ля буфета. Твар яе быў спакойны, але вочы шырока раскрыты.

— Вы ж збіраецеся зняць маску?— не паварочваючыся, спытала яна.

Асцярожна пераступіўшы праз расціснутыя фрукты і разбітае шкло, Катлер нахіліўся над нябожчыкам. Ён адсунуў казырок зашмальцаванай кепкі, падняў чорную маску, якая дрэнна трымалася на гумцы, і ўбачыў тое, што чакаў убачыць.

Узломшчыкам быў Маркус Хант...

— Ведаеце, сэр,—растлумачыў Катлер доктару Гідэону Фелу на наступны дзень, — у тым і штука: з якога боку ні падступай, у гэтай справе нічога не зразумела.

Ён зноў пачаў перабіраць факты.

— Навошта чалавеку ламацца ва ўласны дом і выкрадаць асабістую маёмасць? Або быў ён проста вар'ятам? Што ён думаў, ажыццяўляючы гэта?

Вёска Сатон Вэленс, якая размяшчалася на самай вяршаліне Уілда, была заліта сонечным святлом. Каля белай гасцініцы «Тэбард», у яблыневым садзе за сталом, сярод вос з пінтавым бакалам ля локця сядзеў доктар Гідэон Фел. Поўную яго фігуру аблягаў белы палатняны касцюм. Твар палаў ад гарачыні, і ён здаваўся касавокім з-за неабходнасці пастаянна сачыць за восамі.

— Суперінтэндант Хэдлі прапанаваў мне,— сказаў ён Катлеру,— прыехаць сюды. Справу вядзе мясцовая паліцыя, ці не так?

— Так. Я толькі пабочны назіральнік.

— Хэдлі мне так і сказаў: «Гэту вар'яцкую справу, акрамя вас, не зможа раскрыць ніхто». Мяне ўжо нудзіць ад яго ліслівасці.— Доктар Фел хмурна ссунуў бровы.— Паслухайце, вас больш нічога не здзіўляе ў гэтай справе?

— Ну навошта чалавеку рабаваць уласны дом?

— Не-не-не,— прабурчаў доктар Фел.—Не хадзіце вакол аднаго пункта. У вас гэта ўжо стала назойлівай ідэяй. Напрыклад, да яго бакала падляцела аса, ён раздзьмуў шчокі, адразу стаўшы падобным на Нептуна, і магутным патокам паветра здзьмуў яе.— Напрыклад, маладая дзяўчына задала цікавае пытанне. Калі Маркус Хант не захацеў сказаць, навошта яму патрэбны дэтэктыў у доме, чаму аддзел расследавання злачынстваў усё ж паслаў вас?

Катлер паціснуў плячыма.

— Таму што,— сказаў ён,— галоўнаму інспектару Эймсу здалося, што Хант задумвае нейкую чартаўшчыну, і ён хацеў разабрацца ў гэтым.

— Якую чартаўшчыну?

**(Заканчэнне ў наступным нумары).**

## Тэлебачанне

### 11 мая, СУБОТА

**Праграма Беларускага тэлебачання**

**8.30.** Раніца рэспублікі.
**8.45.** «Падранкі». Маст. фільм.
**10.15.** «Урокі Баха...». Музычная навела.
**11.00.** Тыдзень планеты.
**11.15.** «Не радзіся прыгожай...». Партрэты школьных прыгажунь.
**11.45.** 20 мінут рэдактара.
**12.05.** Інтэрэкран. Прадстаўляе тэлебачанне Узбекістана.
**13.00.** Іграюць В. Варатнікоў і В. Льдокава (фартэпіяна).
**13.45.** Клуб вясёлых і знаходлівых. І паўфінал Рэспубліканскага турніру. Сустрэча каманд БСГА і Мінскага педагагічнага інстытута замежных моў.
**15.00.** «34-ы хуткі». Маст. фільм.
**16.20.** Памяці музыканта. А. Друкт.
**17.00.** ПІК. Пазнавальна-інфармацыйны відэаканал для падлеткаў.
**19.00.** Панарама.
**19.30.** «Да вас, сучаснікі мае». Фільм 2-гі.
**20.45.** Калыханка.
**21.00.** Спявае М. Магамаеў.
**21.45.** «Забытая мелодыя для флейты». Маст. фільм. 1-я і 2-я серыі.
**23.55.** Рэха дня.

**Першая агульнасаюзная праграма**

**6.30.** «Аб тых, хто памятае». Дак. фільм.
**7.00.** Ранішняя зорка.
**8.00.** ТСН.
**8.15.** Рытмічная гімнастыка.
**8.45.** Спорт для ўсіх.
**9.00.** Раным-рана.
**10.00.** На службе Айчыне.
**11.00.** Ранішняя забаўляльная праграма.
**11.30.** Клуб падарожнікаў.
**13.00.** Сельская гадзіна.
**14.00.** Здароўе.
**14.30.** Мы ідзём шукаць.
**15.00.** ТСН.
**15.15.** «У майстэрні мастака».
**15.35.** Марафон-15.
**16.50.** Анры Гуго (Францыя). Перадача з цыкла «Шмат галасоў — адзін свет».
**16.55.** «Кабарэ майго жыцця». Спявачка Ала Баянава.
**18.10.** Уолт Дысней прадстаўляе...
**19.00.** «Песня для дваіх». Эстрадная праграма з удзелам Т. Рузавінай і С. Таюшава.
**19.25.** Хвіліны паэзіі. В. Няжданаў.
**19.30.** «Прапануе руку і сэрца». Маст. фільм.
**21.00.** Час.
**21.45.** Футбольны агляд.
**22.15.** «Кінапанарама» прадстаўляе праграму «Ікс» і праграму «У кадры — трук».
**23.45.** ТСН.

**Другая агульнасаюзная праграма**

**8.00.** На зарадку станавіся!
**8.20.** «Раскажыце казку, доктар». Мультфільм.
**9.00.** «Каўкасіёні». Цыкл «Зямля трывогі нашай».
**9.40.** Іграе Р. Тазетдзінаў (балалайка).
**10.00.** Відэаканал «Садружнасць».
**13.30.** Відэаканал «Плюс адзінаццаць».
**17.00.** Планета.
**18.00.** Педагогіка для ўсіх.
**19.00.** «Па-дэ-дэ пад артабстрэлам». Дак. фільм.
**19.30.** Народныя мелодыі.
**19.45.** Парламенцкі веснік Расіі.
**20.00.** Добрай ночы, малышы!
**20.15.** Конны спорт. Прыз адкрыцця сезона.
**21.00.** Час (з сурдаперакладам).
**21.45.** «Вайна». Маст. фільм. 6-я серыя.
**22.55.** Бокс. Чэмпіянат Еўропы. Паўфінал.

### 12 мая, НЯДЗЕЛЯ

**Праграма Беларускага тэлебачання**

**8.30.** Раніца рэспублікі.
**8.45.** «Забытая мелодыя для флейты». Маст. фільм.
**10.55.** «Гэта аперэта». Фільм-канцэрт.
**16.30.** Экран дзіцячага фільма. «Тайна карпацкага замка».
**17.45.** «Домік для ўсіх». Мультфільм.
**18.00.** «Паэзія без слоў», «Зялёны пропуск». Дак. фільмы.
**19.00.** Панарама.
**19.35.** «Крышталі». Кінанарыс.
**19.45.** «Маё светлае імгненне». Фільм-канцэрт.
**20.20.** Без пяці 18. Праграма для падлеткаў і бацькоў». «Маналог настаўніка» (Л. І. Галяк).
**20.45.** Калыханка.
**21.00.** «Рака пакутаў», «Гаворачыя пяскі». Дак. фільмы.
**21.40.** «Ашчадны банк СССР прапануе...». Пытанні і адказы. Прамая лінія.
**22.00.** «У пятніцу вечарам». Маст. фільм.
**23.25.** Рэха дня.

**Першая агульнасаюзная праграма**

**6.30.** Раніца.
**9.00.** Тыраж «Спортлато».
**9.20.** «Прапаную руку і сэрца». Маст. фільм.
**10.45.** Дзіцячая гадзіна (з урокам англійскай мовы).
**11.45.** Выступленне ансамбля «Святліца».
**12.00.** ТСН.
**12.15.** Футбольны агляд.
**12.45.** «Кабарэ майго жыцця». Спявачка Ала Баянава.
**15.00.** ТСН.
**15.15.** «Малахаў курган». Маст. фільм.
**16.35.** «Калі вам за...».
**17.20.** ТЮГ. «Звярыная кніга». Па казцы англійскай пісьменніцы Э. Несбіт.
**18.00.** Рух без небяспекі.
**18.30.** Мерыдыян.
**18.45.** Рускі харэаграфічны і песенны фальклор. Канцэрт.
**19.10.** Недыпламатычныя гутаркі. Прымаюць удзел былы прэзідэнт ЗША Рычард Ніксан і палітычны аглядальнік В. С. Зорын.
**19.35.** Маст. фільм «Вазьму твой боль».
**21.00.** Час.
**21.45.** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55.** «Брэйн-рынг». Выпуск 7-ы. Фінал.
**22.40.** Хранограф.
**22.55.** Пад знакам «П». У перапынку **(23.55)** — ТСН.

**Другая агульнасаюзная праграма**

**8.00.** Ранішняя гімнастыка.
**8.15.** «І. С. Тургенеў». Вершы ў прозе».
**8.35, 9.35.** Гісторыя. 8 клас. Чускія летапісы.
**9.05.** Англійская мова. 1-ы год навучання.
**10.05.** Англійская мова. 2-гі год навучання.
**17.00.** «Паверх бар'ера». Аб савецкіх прадпрымальніках.
**17.45.** Народныя мелодыі.
**17.55.** «Пыталава». Цыкл «Зямля Еўропы».
**19.00.** Бокс. Чэмпіянат Еўропы. Фінал. У перапынку **(20.00)** — Добрай ночы, малышы!
**21.00.** Час (з сурдаперакладам).
**21.45.** Аўтарскае тэлебачанне.
**23.45.** Бадмінтон. Чэмпіянат свету.

## Дзяўчына тыдня



## Кінаафіша

### «ЧОРНЫ ПРЫНЦ АДЖУБА»

Гэта — дынамічнае і відовішчнае дзіця мудрагелістай усходняй казкі і савецка-індыйскай кінавытворчасці. Карціна каляровая, двухсерыйная. Яна пастаўлена па сцэнарыю Валянціна Яжова, Юрыя Авецікава, Б. Бхалы, Б. Каціяла і П. Раджы.

Народнага мсціўцу (і наследнага прынца) Аджубу іграе вельмі папулярны акцёр індыйскага кіно Амітабх Бачан. Дарэчы, яго азартныя танцы і меладычныя песні добра вядомы і савецкаму гледачу.

Таямнічы Чорны прынц заўсёды паспявае дапамагчы таму, хто мае ў гэтым патрэбу. Ён перамагае злога і вераломнага Візіра, які авалодаў сакрэтам Жалезнага чалавека і прымусіў яго разбураць горад і забіваць людзей.

У якасці ўзнагароды Чорны прынц атрымлівае карону, багацце і прыгажуню нявесту, у тым ліку бацькоў, якіх ён лічыць памёршымі.

Яшчэ ні адзін рэжысёр не рызыкнуў змяніць шчаслівы фінал усходніх казак. Не змяніў гэтай традыцыі і рэжысёр Генадзь Васільеў, які зняў гэты фільм разам з Шашы Капурам.

Галоўныя ролі выконваюць Амітабх Бачан, Дымпл Кападзіва, Шамі Капур, Арыядна Шэнгелая.



### «СВЕДКІ, ЯКІЯ ЗНІКЛІ»

Гэта каляровая румынская мастацкая кінастужка, створаная рэжысёрам Данам Міранеску па сцэнарыю Эўджэна Барну і Нікалае-Паула Міхаіла, адрасавана ў першую чаргу аматарам прыгодніцкага фільма. Як заўсёды бывае ў дэтэктыве, некалькі зацікаўленых асоб вядуць барацьбу за авалоданне брыльянтам «Нябесная сляза». Як і мае быць, уладальнікі каштоўнага каменя доўга не жывуць. Багаты гандляр Кастаке атрымлівае брыльянт як заклад за вялікую суму грошай. Ведаючы, што цяпер яго жыццё ў небяспецы, Кастаке хавае «Нябесную слязу» і ўсе свае зберажэнні ў пячоры...

У галоўных ролях выступаюць Шэрбан Іанеску, Сабічэх, Канстанцін Кадрэску, Наташа Лааб, Аляксандру Лунгу.

### «АБЯЦАННЕ»

У цэнтры гэтай новай каляровай паўночна-карэйскай мастацкай кінастужкі — чуллівая гісторыя кахання, чыстага і бескарыслівага, якое звязала сціплую тэлеграфістку Р'ён Сун і маладога рабочага Сен Біна.

Сустрэўшыся, яны адразу ж развіталіся: ішла вайна і Сен Бін ішоў на фронт.

Але разлука не астудзіла пыл маладых сэрцаў. Закаханыя верылі, што вайна хутка скончыцца і іх чакае доўгае, шчаслівае жыццё. Аднак лёс распарадзіўся па-свойму. Карціну паставіў рэжысёр Лі Гі Вон па сцэнарыю Лі Мен Хві і Кім Вон Ена.

Галоўных герояў выконваюць Лі Хак Чол, Банг Бок Сун, О Менг Ок.

### «ТЫСЯЧАГОДДЗЕ»

Так называецца каляровая англійская мастацкая кінастужка, створаная рэжысёрам Майклам Андэрсанам па матывах рамана амерыканскага пісьменніка Джона Варлі «Авіярэйс».

Герой фільма, Біл Сміт, у час расследавання адной з авіякатастроф знаходзіць у абломках незразумелы прадмет неверагоднай энергетычнай сілы. Сустрэча з прафесарам Меерам пераконвае Сміта, што знойдзены прадмет з другога тысячагоддзя. Значыць, прышэльцы, якія пакінулі яго, падарожнічаюць у часе.

Жанр фільма — кінафантастыка. Уражлівы, відовішчны, ён, несумненна, прывабіць вялікую колькасць гледачоў.

У галоўных ролях: Крыс Крыстоферсан, Чэрыл Лэд, Роберт Джой, Брэнт Карвер.



НА ЗДЫМКАХ: кадры з фільмаў «ЧОРНЫ ПРЫНЦ АДЖУБА» і «ТЫСЯЧАГОДДЗЕ».

# Каб душа і цела зліліся ў адно

**«Дарагі чалавек, выратавальнік мой! Піша вам Святлана. Усім, хто працягнуў мне руку дапамогі, адвёў ад страшэннай мяжы, вялікае дзякуй! Ззаду доўгія гады прыніжэнняў, абраз, здзекаў. Цяпер я шчаслівая. Вы зрабілі для мяне літаральна цуд, зрабілі нават немагчымае, каб душа і цела зліліся ў адно...»**

Яркае святло і бляск кафлі ў аперацыйнай падкрэслівае адчуванне нерэальнасці таго, што адбываецца. На стале дваццацідвухгадовая дзяўчына, якую завуць Анатолем. Ёй неабходна правесці карэкцыю полу, паколькі прырода крыху памылілася, уклаўшы ў жаночае цела душу мужчыны. Пацыенту выдаляць малочныя залозы, каб цела адпавядала дакументам. Гэта жанчына пажадала памяняць пол і па пашпарту — ужо мужчына.



Мяне б'юць дрыжыкі ад таго, што зараз адбудзецца. А Анатоль усміхаецца. Вось-вось дадуць наркоз — і я падыходжу бліжэй: «Табе не страшна?» Ён шчасліва ўздыхае: «Я марыў пра гэта ўсё жыццё».

Не магу, на жаль, назваць імя Хірурга. Ужо вельмі справа далікатная... Скажу толькі, што ён дацэнт, працуе ў аддзеле хірургіі Цэнтральнага інстытута ўдасканальвання ўрачоў. І разам з калегамі launch пераварыў ужо 26 жанчын у мужчын і 17 мужчын — у жанчын. Пісьмо, якое мы цытавалі вышэй, адрасавана менавіта яму.

Мы пісалі ўжо аб праблеме транссексуалізму («Куранты», 29 лістапада 1990 г.). Чытачы адгукнуліся па-рознаму. Эмоцыі — ад спачування да недаўмення і далей, да агіды. Прыкладна кожны дзесяцітысячны чалавек на планеце нараджаецца з якім-небудзь адхіленнем ад палавой нормы. У ЗША робяць каля трох тысяч аперацый па карэкцыі полу ў год і яшчэ каля шасці тысяч— неафіцыйна. Дарэчы, міжнародная прафесіянальная асацыяцыя ўрачоў, якая спецыялізуецца на карэкцыі полу, была створана яшчэ ў 1978 годзе.

У нас жа транссексуалаў падлічыць цяжка. Трагедыя іх у тым, што яны не ведаюць, куды падацца са сваёй бядой. «Я хаджу да знаёмага ўрача, а ў гінекалогію мне ісці сорамна... Пачынаюцца распытванні, і ўсе бягуць глядзець, як на звера ў заапарку». «Цяжка расказаць пра сваю бяду. Але колькі гадоу цярпеў, а потым усё-такі вылілася. Вельмі сорамна ў жаночай бялізне з'яўляцца перад урачом, але нічога не магу з сабой зрабіць. Часам мне здаецца, што мужчынскага ўва мне нічога няма, акрамя цела. Не ведаю, як жыць...» Гэта — з пісьмаў Хірургу. І як вынік: больш за палавіну транссексуалаў падумваюць аб самазабойстве, прыкладна трэць рашаюцца пакончыць з сабою.

Хірург лічыць, што колькасць невырашальных праблем транссексуалаў набліжаецца да крытычнай масы. І ўпаўне магчымы «выбух». Вось ужо будзе нам ганьбы, калі яны арганізуюць дэманстрацыю ды яшчэ завершаць яе масавай самакастрацыяй на Краснай плошчы!

Транссексуалізм — не дурыкі і не вар'яцтва. Гэта клінічнае адхіленне, якое можна, а значыць, неабходна паправіць. Справа ўся ў тым, што паняцце полу вельмі неадназначнае. Вызначаецца яно пяццю параметрамі анатамічнымі і пяццю псіхічнымі. Усяго адно несупадзенне з нормай — і вось ён, канфлікт, і ўнутраны, і з сацыяльным асяроддзем. Жанчыны пачынаюць імкнуцца да мужчынскага спосабу жыцця, мужчыны — наадварот. Уласная знешнасць ім ненавісная, і яны стараюцца яе памяняць. Некаторым зрабіць гэта нескладана: прырода паклапацілася.

Той жа Анатоль, якога апетыравалі на нашых вачах. Пакуль мы размаўлялі ў палаце, то зусім не ўспрымалі яго як жанчыну. Хлопец — і ўсё: стрыжка, твар, паходка, манера паводзін, адзенне. І толькі калі ён распрануўся, згадзіўшыся сфатаграфавацца, я раптам быццам спахапілася. Дарэчы, тое, што ён «не мужык», у аддзяленні ведалі толькі ўрач ды сусед па палаце — такая ж дзяўчына-транссексуал. Пацыенты з іншых палат, ні аб чым не падазраючы, успрымалі гэту пару як таварышаў па няшчасцю, якія «загрымелі» ва ўралогію з якімі-небудзь мужчынскімі хваробамі.

Дарэчы, дáма ў штанах і з кароткай стрыжкай сёння нікога не здзівіць. А вось нафарбаваны мужчына ў парыку і ў сукенцы выглядае, вядома, недарэчна. Такім мы адразу прыклейваем крыўдныя мянушкі накшталт «гомік» або «педык». Хоць перад намі можа быць зусім не гомасексуаліст, а няшчасны транссексуал, для якога апрануць нармальнае мужчынскае адзенне здаецца так жа ненатуральна, як барцу-цяжкавагавіку ўлезці ў пачку балерыны.

Шмат гадоў назад да Хірурга ў аддзяленні трапіў адзінаццацігадовы хлопчык з недаразвітымі палавымі органамі. Урач выявіў транссексуалізм і паспрабаваў далікатна растлумачыць гэта бацькам. Маці і тата ў шоку, што нядзіўна, і, вядома, катэгарычна адмаўляюцца ад карэкцыі полу.

Тады Хірург пачынае аперацыі па стварэнню штучнага палавога члена. Іх было шмат, апошнюю правялі, калі хлопчыку было амаль 17 год. Трэба сказаць, Хірург вельмі ганарыўся касметычным вынікам аперацый.

І што ж вы думаеце? Праз год малады чалавек зноў з'яўляецца ў аддзяленні. Ён просіць прабачэння ў Хірурга і прызнаецца, што адчувае сябе ўсё-такі жанчынай.

Яшчэ тры гады пакутлівых аперацый. Уласнымі рукамі знішчае Хірург вынікі пяцігадовай работы. Малады чалавек стаў жанчынай. Толькі на дзесяць гадоў пасля, чым мог бы.

Гэта неверагодная трагедыя, калі ў мужчынскім целе жыве жаночая душа або наадварот. Чалавек пакутуе ад раздвоенасці. Але, не разумеючы, што з імі адбываецца, многія паспяваюць ажаніцца, выйсці замуж, заводзяць дзяцей. Сем'і, вядома, рушацца, хоць зусім не абавязкова, што муж і жонка адзін аднаго не кахаюць. Мне расказвала дзяўчына дваццаці чатырох гадоў (яна рыхтавалася да аперацыі), што малады чалавек, таксама транссексуал, прапанаваў ёй ажаніцца, калі абодва памяняюць пол. Пры гэтым у маладога чалавека былі жонка і дзеці, і ён не хацеў кідаць іх на волю лёсу. Таму падшукваў для былой жонкі апору з мужчын,. якія раней былі жанчынамі. Маўляў, са сваіх, каб у чужыя рукі не аддаваць. А што жонка? Не пярэчыла, паколькі ў мужчынах поўнасцю зняверылася і памыліцца другі раз не хацела. Вось такія павароты.

Кабператварыць мужчыну ў жанчыну, неабходна толькі адна аперацыя. Работа найтанчэйшая, проста ювелірная і вельмі адказная. Хірургі стаяць ля аперацыйнага стала гадзін дзесяць запар.

Жанчына становіцца мужчынам больш працяглы час. У рэспубліканскім Цэнтры рэпрадукцыі чалавека і планавання сям'і нам давялося пабываць на першай з доўгай серыі хірургічных аперацый — выдаленне малочных залоз і стварэнне загатоўкі для штучнага фаласа. Працягвалася яна гадзін пяць. Праз паўгода будзе наступная, потым яшчэ, і так тры гады.

Але аперацыямі цяжкасці навапечаных грамадзян не заканчваюцца. Яны асуджаны на пакуты вечныя. І тыя, і другія ўсё жыццё прымаюць гармапальныя таблеткі. Імкнучыся захаваць сваю тайну, многія мяняюць месца жыхарства, а з кватэрамі ў нас — самі ведаеце як. Жанчыны-транссексуалы ўсё жыццё змагаюцца за сваю знешнасць, знішчаючы валасы на твары. Яны ніколі не змогуць мець дзяцей.

Мужчынам не лягчэй. Зразумела, што фалас «не сапраўдны» і не ўсялякай партнёрцы гэта спадабаецца. Палавое жыццё — толькі з дапамогай пратэза, які надзяваецца або ўшываецца. І таксама ніякіх дзяцей.

І ўсе іх няшчасці, беды вялікім цяжарам ляжаць на сэрцы Хірурга. Практычна ўсё жыццё яны застаюцца яго пацыентамі. Стол у кабінеце завалены пісьмамі. Пытанні, просьбы, скаргі, фатаграфіі ў новай якасці. Кожнаму Хірург абавязкова адказвае. Гэта цяжка, часам проста невыносна — увесь час жыць жыццём сваіх пацыентаў. Але выйсця няма. Больш нікому, ні аднаму ў свеце чалавеку гэтыя людзі не могуць адкрыцца.

І ўсё-такі, як бы цяжка ні было, самае галоўнае для транссексуалаў — неабходны ім сацыяльны статус мужчыны або жанчыны. Хірург расказваў мне пра Юлю, сваю пацыентку, якая добра перанесла ўсе аперацыі і ператварылася ў вельмі сімпатычную даму. Выйшла замуж. А праз тыдзень пасля вяселля застала свайго суджанага... у ложку з іншай. Але гэта Юлю не збянтэжыла. Адносячыся да сябе з належным пачуццём гумару, яна тут жа сабрала рэчы і з'ехала. А Хірургу пасля прызналася: «Ды і не патрэбны ён мне зусім, муж гэты. Галоўнае — у маім пашпарце ёсць штамп, значыць, я сапраўдная жанчына!»

Але не думайце, што кожная сямейная гісторыя транссексуалаў заканчваецца так сумна. Таццяна, таксама падапечная Хірурга, выйшла замуж удала, па каханню. Але паколькі ёй «нельга нараджаць», яны з мужам вырашылі ўзяць дзіця з Дома малюткі. Афармілі дакументы. Шчаслівыя, прынялі на рукі маленькае немаўлятка. А праз тыдзень у Таццяны... з'явілася грудное малако!

«Фантастыка!— я нават рассмяялася, пачуўшы такое. — Казкі расказваеце». — «Не»,— спакойна запярэчыў Хірург. І растлумачыў мне, бесталковай, што на фоне станоўчага стрэсу — з'яўленне жаданага малыша — у «перароблены» арганізме Таццяны актывізаваўся гармон, які адказвае за рост малочных залоз і лактацыю. І ніякага цуду.

Тое, аб чым я скажу зараз, напэўна, выкліча ў чытачоў усмешку. І ўсё ж: неабходна асацыяцыя хворых транссексуалізмам. Практычна ўсе, хто мае патрэбу ў лячэнні, ведаюць, куды звяртацца са сваім дыягназам. Акрамя транссексуалаў. Не гаворачы ўжо аб тым, што ім неабходны зносіны і падтрымка, грошы на лячэнне — аперацыі каштуюць вельмі дорага. Найбольш актыўныя з пацыентаў Хірурга ўжо «капаюць» у гэтым напрамку. І просяць ім дапамагчы. Не абавязкова з нейкіх меркаванняў вышэйшага парадку. Хоць бы проста спачуваючы.

**Ірына ЦЮРЫНА.**
Фота **Юрыя Разанава.**
**Пераклад з рускай Г. Даўгавесавай.**
«Куранты».
(Масква).

*Працягваем размову*

# Шчаслівая мадэль жыцця

Ці можна прагназіраваць шчасце? Таленавіты вынаходнік з Кіева Г. Абласаў адказвае, што можна. Дапамагае ў гэтым яго тэорыя біясістэмнага збудавання прыроды. Вось ужо некалькі гадоў ён паспяхова яе правярае на практыцы (мы ўспомнілі пра яе ў публікацыі «Апярэдзьце няшчасце», у № 15 «ЧЗ» за гэты год).

На думку Генадзя Міхайлавіча, вялізнае мноства слоў, арганізмаў, інтарэсаў і дзеянняў у свеце мае адзіную біясістэмную эвалюцыйную будову. З дапамогай матэматычных, фізічных пошукаў, формул і разлікаў дзякуючы своеасабліваму бачанню свету і часу ён сканструяваў прыбор для назірання біясістэмных з'яў, узаемадзеянняў і сувязей. Такім чынам, можна зрабіць адпаведны аналіз і даць рэкамендацыі па іх карэкцыі і наладцы.

Калі прытрымлівацца біясістэмнага прынцыпу, то можна, лічыць Генадзь Міхайлавіч, прагназіраваць падзеі і нават мадэліраваць іх лёс у патрэбным напрамку. Больш таго, можна паставіць гэту справу на паток. У яго ўжо была не адна магчымасць публічна даказаць грунтоўнасць такой ідэі. У прыватнасці, выступаючы па ўкраінскім тэлебачанні, Г. Абласаў прапанаваў тэлегледачам эксперымент. Назваў даты нараджэння людзей, у якіх пры ўзаемадзеянні ў канкрэтныя дні пэўных месяцаў складвалася «чорная» мадэль жыцця.

Як паведамляла ў друку карэспандэнт часопіса «Свет» В. Жыляева, у адказ прыйшло шмат пісьмаў. Вось такія, напрыклад: «Дапамажыце адшукаць сына 1962 года нараджэння. Ён прапаў 1 верасня, як і было прадказана па тэлебачанні». «Усё сказанае — дакладна пра майго сына. Ён у верасні сапраўды пацярпеў крах: пазнаёміўся з двума хлопцамі 1959 года нараджэння і ўсе яны трапілі на лаву падсудных». «Я нарадзілася 1 мая 1962 года і ў мяне сапраўды з 5 па 15 верасня адбыліся цяжкія падзеі. Так што эксперымент удаўся і такому чалавеку можна верыць».

Дарэчы, аб катастрафічнай мадэлі жыцця мы гаварылі ў мінулы раз. Таму цяпер — аб сумяшчальнасці. Па ідэі Абласава, яна не можа быць стацыянарнай, бо ў прыродзе мае хвалевую структуру. І бывае як доўгачасовай, так і кароткачасовай. Значыць, не варта спяшацца вызначыць выбранніка па таму, нарадзіўся ён у год Тыгра або Свінні. У кожнага ёсць свая рэальная магчымасць знайсці свайго спадарожніка, г. зн. сумяшчальнага па ўсіх каналах біясістэмнай сувязі — фізічных, эмацыянальных, духоўных. Тады натуральна хочацца перадаць каханаму частку свайго патэнцыяла і бесперашкодна прыняць тое ж ад яго. Такі свабодны ўзаемаабмен без разлікаў і пошукаў выгады прыцягвае людзей як магнітам. Той, хто супраціўляецца гэтаму і перашкаджае, адносіцца да несумяшчальных і можа нашкодзіць. Але трэба яшчэ ведаць або адчуваць, калі і ў які час лепш за ўсё пайсці на сустрэчу з абраннікам. Як гаворыць Г. Абласаў, важна вылічыць найбольш спрыяльны перыяд узаемнага прыцягнення.

Для каго ўдалым будзе 1991 год? Прагноз біятэхнолага такі: у нашай краіне са ста мільёнаў чалавек ва ўзросце ад 15 да 40 гадоў шчаслівую мадэль жыцця могуць рэалізаваць каля трох мільёнаў. У іх ліку людзі 1951, 1959, 1963, 1971 гадоў нараджэння. Справа не ў зорках і гараскопах. Справа не ў фізічным здароўі. Справа — у максімальных токах плённасці. А яны назіраюцца ў арганізме чалавека ў пэўныя перыяды дзякуючы біясістэмнай будове прыроды. Праяўляюцца яны не часта: прыкладна праз дзесяць—дванаццаць гадоў. Жанчына, народжаная, напрыклад, у маі 1959 года, будзе шчаслівай усё жыццё, калі сустрэне мужчыну, які нарадзіўся ў перыяд плюс-мінус 15 дзён ад 5 студзеня або 5 верасня 1951 года. Лепш, за ўсё, каб сустрэліся яны ўпершыню ў студзені альбо маі 1979 альбо 1991 года. Значыць, такая сустрэча магла б адбыцца ў дзень нараджэння аднаго з іх або на навагоднія і майскія святы.

Для жанчын, якія нарадзіліся ў 1959 і 1971 гады, але ў іншыя месяцы, таксама ёсць шанц. Яны стануць шчаслівымі, лічыць Г. Абласаў, калі здолеюць сустрэцца (па той жа схеме), але толькі з мужчынам адпаведнага месяца нараджэння. Скажам, Яна нарадзілася ў студзені 1971 года. Значыць, Ён — гэта мужчына «майскі» або «вераснёўскі» 1963 года нараджэння. Час іх першага спаткання — май, студзень 1991 года. Прычым пры разліку даты нараджэння неабходна памятаць, што неабходна дадаць або адняць 15 дзён ад 5 чысла.

Не верыце? Праверце! Толькі адна просьба: калі вы ўжо выбралі сабе сябра, беражыце яго, аддавайце толькі яму ўсё лепшае, што ёсць у вас. Ён вам падорыць тое ж.

**В. БРЫЛЬ.**

## Давайце пазнаёмімся

● «Мне 19 гадоў, адукацыя сярэдняя тэхнічная. Жыву недалёка ад Мінска. Па нацыянальнасці беларус, па характару сумленны, спакойны, добры, працалюбівы. Займаюся фізкультурай, люблю чытаць кнігі, глядзець добрыя фільмы, слухаць сучасную музыку і г. д.

Хачу пазнаёміцца з дзяўчынай з мэтай стварэння сям'і па ўзаемнаму каханню. Па нацыянальнасці беларускай, прыгожай, з выдатнай фігурай. Ростам не вышэй за 176 см і не ніжэй за 164 см.

Я не п'ю і не куру і ніколі не буду піць і курыць, абяцаю, што сваю жонку не дам у крыўду, не здраджу, буду насіць на руках, называць «дарагая», «мілая», «каханая».

Прашу тых, хто быў замужам і для забавы, не пісаць.

223216, Мінская вобл., Чэрвеньскі р-н, г. п. Смілавічы, да запатрабавання. СУШКЕВІЧУ Васілю».

● «Мне 24 гады. Рост 170 см. Беларус, адукацыя сярэдняя спецыяльная. Сціплы, ураўнаважаны, не куру, спіртнымі напіткамі не захапляюся. Інтарэсы розныя.

Хачу пазнаёміцца з дзяўчынай маіх гадоў, з добрым, ураўнаважаным характарам.

225250, Брэсцкая вобл., г. Івацэвічы, вул. Чапаева, 1. РАДЗЬКО Васілю».

● «Мне 25 гадоў. Рост 184 см. Адукацыя сярэдняя, па прафесіі сталяр-чырвонадрэўшчык. Па характару спакойны, добры, працавіты. У людзях цаню адданасць, высакароднасць, сумленнасць і сам маю гэтыя якасці. Жадаю мець моцную, шчаслівую і дружную сям'ю. Дзеля цікавасці прашу не пісаць. Астатнія падрабязнасці пры перапісцы».

220600, г. Мінск, вул. Апанскага, Уж 15/1 п/с 35-4. НАВІЦКАМУ Юрыю».

● «Аляксандр, сузор'е Вадалея, 28 гадоў, беларус. Рост 173, стройны. Быў жанаты. Па характару дамасед, у рэстаранах і на дыскатэках не бываю. Інтарэсы розныя. Да спіртнога раўнадушны, не куру.

Быў бы ўдзячны за ліст ад стройнай, сімпатычнай дзяўчыны, якая верыць у каханне і чысціню пачуццяў. У людзях цаню шчырасць і вернасць.

230009, г. Гродна-9, АБ. 104».

● «Мне 43 гады. Нарадзілася пад сузор'ем Авена. Рост 160 см. Стройная, вочы блакітныя. Адукацыя вышэйшая, замужам не была. Вельмі люблю лес, а таксама рух. Любою працу даводжу да канца, гэтага патрабую і ад іншых. Люблю чысціню і акуратнасць.

У мужчынах цаню сілу волі, справядлівасць, надзейнасць, мужнасць. Ненавіджу п'яніц, «катоў», манюк, падліз і скваппых. Адукацыя мужчыны не мае значэння. Галоўнае ў чалавеку — чалавечнасць. РЭГІНА».

АБ. 198, Віцебская вобл.

● «Мне 28 гадоў. Рост 180 см. Халасты. Зараз адбываю пакаранне за бойку, ёсць магчымасць выйсці раней часу прызначанага судом. Хочацца мець моцную, сапраўдную сям'ю. Шчасця не бачыў, кахання не было, а імкненне да гэтага вялікае і спадзяюся з вашай дапамогай стварыць сям'ю.

Адкажу ўсім жанчынам 25—32 гадоў, якія не спалохаюцца цяжкасцей і змогуць стварыць утульнасць у сям'і. У жанчынах цаню вернасць, спакой і ўменне валодаць чуласцю і павагай. Галоўным у сям'і лічу цёплыя і светлыя пачуцці, імкненне да добрага і ласкавага жыцця.

Люблю дзяцей, гатаваць, люблю музыку, удзельнічаю ў самадзейным ансамблі, займаюся спортам. У мяне характар спакойны, добры, на думку навакольных, надзейны.

Нарадзіўся ў год Тыгра пад сузор'ем Стральца.

220600, г. Мінск, вул. Апанскага, п/с 35-14 СОХА Аляксандру».

● «Лёс склаўся ў мяне нялёгкі. Дапусціў памылку ў жыцці, быў асуджаны. Праз год вяртаюся дамоў. Хацеў бы знайсці добрага чулага чалавека, маладую жанчыну 20—25 гадоў.

Упэўнены, што толькі праз сям'ю, каханне і павагу можа быць шчасце ў кожнага чалавека.

Мне 23 гады. Рост 178 см, стройны. Люблю прыроду, утульнасць, цёплыя адносіны і, вядома, працу і дзяцей. Знешнасць мая звычайная. У жанчыне хацеў бы бачыць уважлівага, гаспадарлівага, добрага чалавека, без дрэнных звычак.

225250, г. Івацэвічы, Уж 15/5, ад. 22. БАНДАРЭНКУ Альфрэду».

● «Прыстойны мужчына 45 год шукае спадарожніцу жыцця 34—37 год (не за мужнюю або жанчыну з адным дзіцём). Тых, хто не хоча мець агульнае дзіця, прашу не пісаць.

Пра сябе: працую слесарам-сантэхнікам на будоўлі. Захапляюся музыкай. Не п'ю, не куру. Цаню прыстойнасць і гасціннасць.

223610, Мінская вобл., г. Слуцк, вул. Леніна, д. 207, кв. 815. ГНЯДЗЬКО Мікалаю Станіслававічу».

## Шукаем сяброў

● 222320, Мінская вобл., Маладзечанскі р-н, в. Краснае, вул. Прывакзальная, д. 1. БАБІЦКАЙ Алене, 14 год.

● 213811, Магілёўская вобл., г. Бабруйск, вул Ракасоўскага, д. 72, кв. 100. ТАРАСЕНКА Аксане, 16 год.

● 210001, г. Віцебск, вул. Камсамольская, д. 40, п. 41, ШЫМУКОВІЧ Алене, 17 год.

● 231000, г. Смаргонь, Гродзенская вобл., зав. Святлянскі, д. 11, кв. 15. КІНДРА Ірына, 12 год.

● 247150, Гомельская вобл. г. Чачэрск, вул. Камарова, д. 10. ВІНІДЗІКТАВАЙ Ірыне, 16 год.

● 222310, г. Маладзечна, вул. Маўчанскага, д. 22-а, кв. 42. СВЯТЛАНЕ К., 15 год.

● 222320, Мінская вобл., Маладзечанскі р-н, г/п Краснае, зав. Неміра, д. 2. ЛУЦКАЯ Святлана, 13 год.

● 231920, Гродзенская вобл., Ваўкавыскі р-н, п/а Маісеевічы, в. Калядзічы, 100. ВАРАПАЙ Святлане, 18 год, АЛЕ, 18 год, ТАНІ, 17 год.

● 231460, Гродзенская вобл., г. Дзятлава, вул. Чапаева, 18. Школа-інтэрнат. АБДУХОВАЙ Іне і ВАСІЛІВАЙ Наташы (па 15 год).

● «Вучымся ў Смалянскім саўгасе-тэхнікуме на эканамічным аддзяленні. Любім вязаць, слухаць музыку. Займаемся валейболам.

211014, Віцебская вобл., Аршанскі р-н, п/а Смаляны, саўгас-тэхнікум, інтэрн. № 2, пакой 9. ДУДАРАВАЙ Алене і ПАНІМАШЧАНКА Алене (па 17 год)».

● 246003, г. Гомель-3, вул. Дакутовіч, 48. СУСЛАВАЙ Ірыне, БІЛЬКО Наталлі.

## Адгукніцеся, аднадумцы!

● «Тым, хто любіць «Бітлз», прапаную запіс іх канцэрта ў Японіі (2 ліпеня 1966 г.), а таксама мяняцца запісамі іх першых канкурэнтаў (ансамблі «Сечэрз», «Свінгін Блю Джынз», «Кінкз», «Сем зэ Шэм энд Фараонз», «Трэмелойс», «Гэры энд Пейсмэйкерз, «Дэйв Кларк Файвы», «Манкіз», «Манго Джэры», «Рэтлз», «Трогз», вядома ж, «Ролінг Стоўнз» і іншыя).

341026, г. Марыупаль-26, а/с 1253, Косця ВАКУЛЕНКА».

Наш тэлефон 32-50-01.

## Умовы завочнага клуба знаёмстваў

Разам з пісьмом у рэдакцыю неабходна дасылаць квітанцыю аб аплаце: за кожны адрас зацікаўшага вас абанента або перасылку пісьма неабходна пералічыць на наш разліковы рахунак адзін рубель. Калі вы хочаце ўбачыць свой адрас надрукаваным у «Перапісцы», пералічыце тры рублі, за пісьмо, змешчанае ў рубрыцы знаёмстваў, — сем рублёў.

Рэдакцыя прадастаўляе льготы ваеннаслужачым. Яны могуць уносіць або не ўносіць плату па ўласнаму жаданню. Але друкуюцца ў першую чаргу лісты, да якіх прыкладзена квітанцыя.

Грошы пералічвайце на разліковы рахунак штотыднёвіка «Чырвоная змена» № 345480 (Код 811) у Беларускім прамыслова-інавацыйным банку г. Мінска.

Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць тэксты пісьмаў пры падрыхтоўцы да друку. Каб пазбегнуць памылак, просім разборліва пісаць сваё прозвішча і хатні адрас.

Увага! Пісьмы з паметкай «уладальнік пашпарта...» больш друкавацца не будуць, бо такая форма, як нам паведамілі на Мінскім паштамце, не адпавядае існуючым правілам перасылкі карэспандэнцыі. Аўтараў тых лістоў, якія адправілі нам пісьмы з такім подпісам, просім тэрмінова паведаміць рэдакцыі свае дакладныя адрасы. А пісьмы будуць друкавацца пад абанентным нумарам.





Меланхолія. Фота Ж. АМІСТА.

Дзяжурны рэдактар Л. ЧАРАПАВІЦКІ. Мастацкае афармленне нумара В. ДУБОВІКА.

ЧЫРВОНАЯ Змена

Заснавальнік: ЦК ЛКСМ Беларусі

Газета ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга

АДРАС рэдакцыі: 220041, г. Мінск, Ленінскі праспект, 77

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмная — 32-13-54, аддзел пісьмаў і сацыяльных праблем—32-50-01

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі, г. Мінск. Індэкс 63906



*Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзеных фактаў, цытат, эканамічных даных, асабістых імён, геаграфічных назваў і іншай інфармацыі, а таксама за тое, каб у матэрыялах не ўтрымлівалася звестак, якія не падлягаюць адкрытай публікацыі. Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не раздзяляючы пункту гледжання аўтара.*

*Рэдакцыя рукапісы не рэцэнзуе і не вяртае.*

Рэдакцыя газеты «Чырвоная змена» прымае заказы на змяшчэнне аб'яў, рэкламы. Даведкі па тэлефоне 32-65-46.

Зак. № 19.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12